Мікола Маляўка

# Вільні дождж

*Вершы, балады, байкі*



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1991

ББК 84Бел7
М 21

На исходе двадцатый век. Что дал он нам, людям и природе, нашей земле? Что, когда и как потеряли мы в прошлом и теряем сегодня, на нелегком пути в будущее? Про это — новая поэтическая книга Николая Малявки.

М $\frac{4702120202-010}{М\ 302(03)-91}$ 60—91



ISBN 5-340-00652-2.

*Дажджынкі, як горкія слёзы,*
*Блішчаць на пяску, на галлі.*
*А можа, гэта нябёсы*
*Па нашай плачуць Зямлі?*





Дождж прайшоў —
І ўсё зазелянела.
І табе таксама не да сну.
Час надзей!..
Здаецца, нават цела
Маладзее, славячы вясну.

На вачах прырода ажывае.
Дзе між ёю і табой мяжа?
Над зямлёю жаўранак спявае
Ці твая крылатая душа?

Ах, вясна!
І жыць, і марыць лёгка,
Як даўней, у юныя гады.
Час надзей...
Да старасці далёка,
Так далёка, быццам вечны ты.

# ЦІ СЯБЕ ПЕРАЙНАЧЫМ?..

Ты зямлю берагла адвеку,
Ты любіла звяроў і птушак,
І спрыяла ты чалавеку,
Беларусь — запаведная пушча.

Сінявокая, добрая, мілая,
Прыручалі цябе і ласкай,
Прыручалі цябе і сілаю
Пад любві карнавальнаю маскай.

Акупацыя зброяй бразгала,
Гаспадарылі люта чужынцы —
І крыжы, і магілы брацкія
Падняліся пры кожным гасцінцы.

Ты прыблудам ліхім не скарылася:
І падполле збірала ў бараку,
І адкрыта, на мове Скарыны,
Партызан падымала ў атаку.

Яны выжылі, песні і казкі,
У няволі, за дротам калючым.
А сягоння мы, безадказныя,
Самі крыўдзім цябе і мучым.

Ад чарнобыльскай радыяцыі,
Звар'яцеўшы, сабака вые,
Як даўней, у дні акупацыі,
Апусцелі вёскі жывыя.

Пладаносіць зямля, а не цешымся,
Ураджаям высокім не рады:
У духмяных яблыках — цэзій,
У разварыстай бульбе — нітраты.

Ад духоўнай меліярацыі
Задыхаецца родная мова,
Гістарычная памяць траціцца —
Радаслоўнага дрэва аснова.

Разумеем і самі, галоўнае,
Пакідаем якую спадчыну,
А маўчым —
Апусціўшы галовы,
Прытвараемся, быццам не бачым.

Ці сябе перайначым,
Адолеем
Вось такіх —
Нямых, невідушчых,
Каб цябе зберагчы, як долю,
Беларусь — запаведная пушча?..

# КАІНАВА ПЯЧАЦЬ

Людзей не цаніла эпоха.
І за жыццём у чарзе
На Сталіна, як на бога,
Маліліся каіны ўсе.

Паклёпы страчылі спакойна,
З трыбуны крычалі ўзахлёб —
І ён дзяржаўнай рукою
Благаслаўляўся, паклёп.

Спявалі пра мір піянеры,
А іх бацькі і дзяды
Баяліся стуку ў дзверы,
Як самай вялікай бяды.

Віну выбівалі люта,
І лёгка было суду:
Не ўстануць з нябыту людзі,
А значыць — канцы ў ваду.

«Забойцы!» — клялі ахвяры.
Пра гэта суддзі маўчаць,
Ды праступае на твары
Каінава пячаць.

У сіле яно, пракляцце,
І па сягоняшні дзень —
І цяжка з такой пячаццю
Схавацца ў мінулага цень.

Баяцца каіны праўды.
Згубіўшы душу не адну,
Яны на Сталіна прагнуць
Зваліць і сваю віну.

Маўляў, і караў найболей,
І мілаваў ён, уладар.
А хто ўладару, як богу,
Ахвяры прыносіў у дар?

Ці, можа, былі не рады,
Калі ад бога ў Крамлі
Атрымлівалі пасады,
І званні, і медалі?

Пра тое, за што ўзнагароды,
Яны, вядома, маўчаць,
Ды іх выкрывае заўсёды
Каінава пячаць.

Рэабілітаваны ахвяры,
А ім — апраўдання няма:
І смерць не сатрэ на твары
Ганебнай пячаці-кляйма.

## ТАК БЫЛО...

Ад народа ўтойвалі праўду,
А суровая праўда — адна:
У імя шчаслівага заўтра
Вялася з народам вайна.

На кладáх і ў архівах тайных
Адкрываем злачынстваў сляды,
Адкрываем, хоць цяжка вяртацца
У сталінскія гады́.

Пракуроры кругом...
За трыбунай —
Адвакатам месца няма.
І трыбуны нагадвалі труны,
Пастаўленыя старчма.

Вытрасалі душу з чалавека,
Праклiналі, нібы сатану,
І прысуду пáдала века
На ўмоўную тую труну.

Так было...
Хоць усіх, хто адмучыўся,
І хавалі тады не ў труне,
А без родных, за дротам калючым,
Не плачучы —
Як на вайне.

## КАМАНДАРМЫ

Пачынаем ушаноўваць мёртвых.
І на свеце тым, відаць, яны,
Камандармы з ленінскай кагорты,
Мучыліся, паўшы без віны.

Іх судзілі ад імя народа
Тыя, хто не думаў пра народ,
І без іх, высокіх званняў годных,
Абяссілеў сорак першы год.

Перамога стала нашым святэм,
Ды на іх, магільшчыках, віна,
Што запозна, толькі ў сорак пятым,
Скончылася страшная вайна.

Колькі б жыццяў смерць не растаптала,
Дзякуючы іхняму жыццю,
Каб раней сапхнулі з п'едэстала
Самага галоўнага суддзю.

Выступаюць з цемені нябыту,
За спіною — водсвет кумача,
І становяцца яны, забытыя,
Зноў у строй —
Бліжэй да Ільіча.

# МЫ — ЛЮДЗІ

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым,
глухім?
— Людзьмі звацца.

*Янка Купала*

Пры Савецкай уладзе
Нам прыйшлося змагацца,
Каб рэвалюцыю спраўдзіць,
Каб людзьмі называцца.

Сэрца яны не мелі,
Нашы суддзі і ка́ты,
На трыбунах хмялелі
Ад абсалютнай улады.
Хорам славілі Сталіна,
Грэшна ўзвышаліся самі —
І пагарджалі астатнімі:
Людзі — пыл пад нагамі.
Бралі з абжытай хаты,
Бралі нас — і ў магілу,
Быццам зямля задыхалася
Ад чалавечага пылу.
І заіздросцілі зверу,
І зайздросцілі птаху
Мы — ад бяссонніцы шэрыя,
Мы — нямыя ад страху.
А рэпрэсіі —
Вал за валам,
І ўстаяць немагчыма,
І крывёю ўмывалася
Бедная наша Радзіма.

Пэўна, гібелі б, няшчасныя,
Пылам былі б мы і сёння,
Ды падсудныя часу
І багі беззаконня.
Як у семнаццатым, рады
Праўдзе ленінскай пробы,
Хоць і баліць яна, праўда
Страшнага культу асобы.

Болей не горбяцца плечы,
Вольна дыхаюць грудзі:
Мы не пыл чалавечы,
Мы — людзі!

## БЯДА

Добры быў —
Увянчаў бараной
Нашу бярэзіну дзед,
І буслы наваселле вясной
Адсвяткавалі ў гняздзе.

Крылы раскінуць — і светла было.
Цешыўся я, малы,
Як шчасліва, на ўсё сяло,
Клекаталі буслы.

Дзе яны, птахі, сягоння гняздзяцца?
Гіне свет без вайны:
Меліярацыя,
Хімізацыя,
Радыяцыя —
Скрозь наступаюць яны!

Без травы палыселі лугі,
Рэчка пяском заплыла.
І буслы ў запаведнік глухі
Адляцелі з сяла.

Дзіўна і цяжка знізу глядзець,
Як паднялася бяда:
У буслянцы, нібы на градзе,
Вырасла лебяда...

# ЧАРНОБЫЛЬ, 1986 ГОД

На дарогах крыжавых,
На крутых заломах лёсу
Не знайшоў сярод жывых
Я цябе, маю бярозу.

Ты на Прыпяці расла,
Год ад году ты, шчаслівая,
Прыгажэла ад святла,
Ад гаючых, чыстых ліўняў.

Веку жорсткага прагрэс
Нас прарэджвае, як лес,
На жыцця зялёным беразе.
І пліты магільнай зрэз
Бачу тут, дзе ты шумела,
Ты — мая бяроза белая.

Вецер дыхае яшчэ
Недзе там, за небасхілам,
Прыскам, што зямлю пячэ,
Радыеактыўным пылам.

На радзіме не вайна,
А прайшла эвакуацыя.
Ці апошняя яна,
Сіл прагрэсу акупацыя?..

І дажджынка для жывых
Сёння тоіць небяспеку —
На дарогах крыжавых,
На крутых заломах веку.

## МЁРТВАЕ ПОЛЕ

Не стануць намалотам
Зярняты збажыны,
А тут, у полі, потым
Асыплюцца яны.

Спакойна ўсё нібыта
Ў прыродзе і ў жыцці,
І будуць птушкі жыта
Налета зноў дзяўбці.

А нас гняце здагадка:
Іх шмат, такіх зярнят,
І кожнае зярнятка —
То ядзерны зарад.

І ўжо не птушкі гэта,
І ўжо баімся іх,
Бо кожная — ракета
На крыльцах трапяткіх.

Як з ядзернай пляцоўкі,
З палетка збажыны
Зярнят боегалоўкі
Нясуць у свет яны,

Нясуць, каб свет захмарыць
Ля чыстых віў, крыніц,—
Няма для іх радараў,
Няма для іх граніц.

Пад гнётам нашы душы:
Парушан вечны лад
Сярод людзей, і птушак,
І сонечных зярнят.

Апаленыя болем,
Баімся, каб пасля
Не стала мёртвым полем
Ты ўся наўсцяж, зямля.

## ГРАШЫЛІ СЛЕПА...

> На Беларусі бог жыве.
> *У. Караткевіч*

Ён жыў на Беларусі
І нас любіў, бярог,
Ды адвярнуўся, мусіць,
Ад Беларусі бог.
Як быццам мір на свеце,
А мы глядзім усё ж,
Адкуль ён вее, вецер,
Адкуль прыходзіць дождж.
Не цешыць вецер кроны,
І збажыну, і лён,
Калі з закрытай зоны
Падзьме-павее ён.
Не радуе і ў спёку
Абложны дождж, калі
З чарнобыльскага боку
Прыходзіць на палі.
Мы ўсе грашылі слепа,
Даруй нам бог, малю.
Гляджу часцей у неба,
А клопат — пра зямлю:
Ці так працуем, марым
Цяпер, у час трывог,
Каб павярнуўся тварам
Да Беларусі бог?

## ГЛУШЫЦЕЛІ

Настройваліся заўсёды
Яны на крытычную хвалю —
І голас праўды народнай
Глушылі свядома, без жалю.

Да ўлады вялікай дарогу
Масцілі з усмешкай святою
І ў культаўскую эпоху,
І потым, у час застою.

Турмою, рублём і крыкам
Яны каралі нязгодных,
Глушыцелі смелых адкрыццяў,
Глушыцелі думак свабодных.

У строгім форменным кіцелі
І ў вышыванай кашулі
Яны, бюракраты-глушыцелі,
Сягоння шкодзяць бясшумна.

З усіх абрадаў гатовы
Пакінуць адны хаўтуры,
Глушыцелі роднай мовы,
Глушыцелі роднай культуры.

Яны апладзіруюць доўга,
Яны ўсміхаюцца ветліва,
Глушыцелі перабудовы
І ленінскіх запаветаў.

Змянілі партфелі і кіцелі,
Ды будзьце пільнымі, людзі:
Глушыцелі —
Гэта душыцелі
Кастрычніцкай рэвалюцыі.

# ЛЮДЗІ З КРАЮ

Мая хата з краю —
нічога не знаю.
*Прыказка*

Глядзяць, дзе служба саладзей,
Пасад у цэнтры выбіраюць,
Ды так жывуць сярод людзей,
Бы хата іх —
Заўсёды з краю.
Нашто крычаць?
Нашто шумець?
Прывыклі тлець напаўнакалу,
Нібы хаваюцца,
Каб смерць
На дзень раней не адшукала.
Магчыма сэрца замяніць,
Падоўжыць трошкі век кароткі,
Ды лёсу тоненькая ніць
Перагарыць аднойчы ўсё-ткі.
Прабіў іх час,
А ў галаве —
Апошні пробліск недаўмення:
Чаму сусед яшчэ жыве,
Хаця гадоў яму не меней?
Відаць, па ўласнай дураце
Гарэлі век напаўнакалу:
Каб так —
У поўнай цемнаце,
І іх бы смерць не адшукала.
На твары — святасці пячаць,
Нібы і ў дамавіне вучаць:
Нашто шумець?

Нашто крычаць?
Нашто сябе і іншых мучыць?
Пакуль не вырас курганок,
Мацнее медных труб рыданне,
І за вянком нясуць вянок —
Як быццам плату
За маўчанне.
Ты забярэш усіх, зямля,
Усіх... Але чаму, пытаю,
І на кладáх яны пасля
Ляжаць у цэнтры,
Людзі з краю?

# ЦЯЖКІ ВОЗ

Яны саскоквалі з калёс,
Мяняліся, пагоншчыкі, не раз —
І гаспадаркі сельскай воз
Зусім нарэшце у дрыгве заграз.

Як жыць?
Начальнікі вялікія,
Суровыя, але без галавы,
І пугай пастаноў, і крыкам
Той воз пасля выцягвалі з дрыгвы.

А воз пусты хаця, ды ця́жкі,
І асядаў паціху ўсё глыбей.
З нішчымным каласком, як з цацкай,
Гуляў на ім галодны верабей.

Клянём дажджлівую пагоду
І засуху клянём, як і клялі,
І судзім неба год ад году
За недарод і страты на зямлі.

На трактары змянілі коней,
Асушваем лугі і паплавы,
А воз на месцы і сягоння,
Ніяк не можам выцягнуць з дрыгвы.

Не кожны год спрыяе неба,
Ды ў тым, што гаспадаркі воз заграз,
Вініць не толькі неба трэба,
Але і час, і безадказных нас.

Спявалі аб жыцці заможным,
А самі збожжа возім з-за мяжы
І плацім золатам за збожжа,
Як быццам ён смачнейшы, хлеб чужы.

Як жыць?
Як замаліць правіны?
Як выбрацца на бераг, дзе сушэй?
Не аблягчаць мы воз павінны,
А нагрузіць яго яшчэ цяжэй.

За справу возьмемся ўсур'ёз,
Адродзім хлебаробства дух жывы —
І гаспадаркі сельскай воз
Усім народам выцягнем з дрыгвы.

## ЗАХОЎВАЙЦЕ СВЯТЛО...

Захоўвайце ў душы святло,
Усім абставінам назло,—
Захоўвайце святло...

Захоўвайце ў душы святло
Таго, што ціха адцвіло,
Таго, што шумна адгуло,—
Захоўвайце святло...

Захоўвайце ў душы святло,
Каб заўтра цёмна не было,—
Захоўвайце святло...

# ПЕРАВЯРНУЎСЯ СВЕТ

У ціхай вёсцы прыазёрнай
Даўно прывыклі людзі ўсе:
За хатай крайняй
Хлопчык чорны
Падскоквае —
Гусей пасе.

Работа лёгкая, па сіле,
І ў бабкі на віду.
— Куды вы!
Гы-ля! —
Крычыць на чараду.

З раўнівым гусаком пад ліпамі
Ваюе ён, відаць здалёк.
І бабка Гэля не даклічацца:
— Ідзі абедаць,
Васілёк!..

Сплялося ўсё, заблытана,
Не разбярэш, чыя віна:
Дачка і замужам нібыта,
А ездзіць з горада —
Адна.

Пляце карзіну дзед на лаўцы,
Суседу кажа:
— Хлопчык слаўны!
А людзі, што ж, няхай гавораць,
Увесь у бацьку балазе.

— Мая дачка таксама ў горадзе,
Таксама, можа, прывязе:
Гадуйце, дзед...
— І не кажы, сусед!
Перавярнуўся белы свет!..

А чорны Васілёк ад ранку
Наваяваўся з гусаком —
І смачна сёрбае аўсянку,
Забеленую малаком.

Да бабкі Гэлі ў хаце горнецца,
А бабка гладзіць непакорныя
Кудзеркі на галаве —
І думае пра бабку чорную,
Што недзе ў Эфіопіі жыве.

# ПЛУГ

Роўнае поле, як луг.
Дык чаму, бы ўначы,
Ты спатыкаешся, плуг,
Баразной ідучы?

«Памяць трывожыць мяне
Кожны раз як удар:
Тут ляжыць на вайне
Сейбіт — мой гаспадар.
І на дне баразны
Ён гарыць, успамін,
Як гарэлі яны —
Жонка яго і сын.
Дымам ў памяць сплылі
Хата, гумно і хлеў.
Тут, на гэтай зямлі,
Я адзін ацалеў...»

Хлеб патрэбен жывым.
І, закончыўшы круг,
Зноў на месцы старым
Спатыкнуўся ён, плуг.

# АКОПНЫЯ ВЕРШЫ

*Пайлюку Пранузу,*
*паэту-франтавіку*

У форме вайсковай і людзі, і вершы.
Лісток газеты, асколкам працяты,
Нагадвае
Сорак першы,
Сорак другі,
Сорак трэці,
Сорак чацвёрты,
Сорак пяты.

Жыцця і смерці
Суровыя даты:
Людзі салдаты,
І вершы — салдаты.

Ляжалі вершы ў акопчыку вузкім
Побач з вамі, ўчарашнім студэнтам,
І размаўлялі вершы па-руску,
Але — з беларускім акцэнтам.

Гарэла зямля...
На радзіме,
А потым далёка ад дому
Радкі задыхаліся ў дыме
І глухлі ад міннага грому.

У снег, у глыбокія травы
Падалі вершы і зноў падымаліся з вамі.
І разам адзначаны

Ордэнам Славы
І медалямі.

Сорак першы,
Сорак другі,
Сорак трэці,
Сорак чацвёрты,
Сорак пяты...
А вершы — жывыя,
Працуюць на мір вашы вершы —
Вялікай Айчыннай вайны радавыя.

На сэрца бяруць нагрузку.
З чужога пляча
Не прымяраюць абнову.
І думаюць па-беларуску
У перакладах на іншую мову.

Спакойна стаялі пад дулам.
Дэмабілізаваўшыся,
Сеюць і садзяць.
Не здраджвалі вам у мінулым
І ў будучым вершы не здрадзяць,
Акопныя вершы.
Зарукай
Жыцця і смерці
Суровыя даты —
Сорак першы,
Сорак другі,
Сорак трэці,
Сорак чацвёрты,
Сорак пяты.

## У ТЫЯ ЛІПЕНЬСКІЯ ДНІ

Пчала мядовая гула
Над зоркай танка баявога,
Калі да нашага сяла
Дайшла нарэшце Перамога.

Згарэў і наш маленькі дом,
І вулей у пчалы згарэў,
Пакуль аціх гарматны гром
У кронах прыдарожных дрэў.

Яснелі кветкі на бране,
І парадніўся смех і плач
У тыя ліпеньскія дні,
Навек спавітыя ў кумач.

Пад ногі лёг фашысцкі сцяг,
Пад тракі танкаў — грознай зброі
І Беларусь уся наўсцяж
Салютавала вам, героі.

Яшчэ гарматныя ствалы
Астудзіць мір у добры час —
І будзе вулей у пчалы,
І будзе новы дом у нас.

Глядзеў танкіст, адкрыўшы люк
І пах духмяных ліп п'ючы,
Як усміхаўся я, хлапчук,
У Перамогі на плячы.

# ДАР

*Міколу Чарняўскаму*

Мы адтуль, з вайны далёкай, родам,
Там — калыска наша, першы дом.
Адляцелі ў вечнасць год за годам,
Памахаўшы
Выраю крылом.

Помню я цябе чарнявым, дружа.
Малады, ты пасівеў зусім,
Быццам апаліла скроні сцюжа —
Тая, з дзвюх тваіх ваенных зім.

На вяселле хата не скупая,
Ды магло б застолле быць гусцей:
За сталом святочным не хапае
Бацькі, маці —
Дарагіх гасцей.

Вінаваты і вайна праклятая,
І скупы пасляваенны быт:
Адышлі бацькі пад крыж за хатаю,
Адышлі — у памяці блакіт.

Ведалі, не вернуцца дадому
З хлебам, з ласкай...
І яшчэ тады
Завяшчалі сыну дарагому
Дар свой —
неапражытыя гады.

Будзе шчасце ў дом прыносіць ружы,
Будзе смутак воранам кружыць,—
Ды з вялікім дарам гэтым, дружа,
Доўга будзеш ты на свеце жыць.

## ЛЯСНЫЯ АЗЁРЫ

З маленства хвалююць душу
Дуброва зялёная, гай белакоры,
І ў сэрцы сваім калышу
Лясныя азёры, лясныя азёры.

Сплылі маладыя гады,
Ды я па-ранейшаму лёгкі на зборы —
І ў далеч праводзяць заўжды
Лясныя азёры, лясныя азёры.

Я ўдзячны далёкай вясне
За човен, за вёслы ў світальным дазоры,
Калі паланілі мяне
Лясныя азёры, лясныя азёры.

Шуміць акіянскі прыбой,
Да вечных снягоў падымаюся ў горы,
Ды клічуць з дарогі любой
Лясныя азёры, лясныя азёры.

# У КАРЭЛІІ — ДОЖДЖ

У Карэліі лье —
Радыё сведчыць бясконца.
Як там хлопцы мае
Без блакіту,
Без сонца?

Бачыцца шэрая восень,
А на шэрым —
Валошкі:
Гэта ў вачах засталося
Неба блакітнага трошкі.

«Хлопцы мае,
Не хварэйце!» —
Зычу з сяброўскай пяшчотай.
Сам пад дажджамі карэльскімі
Некалі грэўся работай.

Сонечна ў краі родным,
Бабіна лета...
І ўсё ж —
На душы не пагоднее:
У Карэліі — дождж.

## ЯК ЖЫЦЦЁ?..

— Як жыццё?
— Нічога...

І чуў ад сябра маладога,
І сам адказваў так не раз.
Адценняў у пытанні многа,
Ды адназначны ён, адказ.
Душа, здаецца, не затока
Без плыні — пачуцця жывога,
А не хвалюемся глыбока,
Калі — бяда,
Калі — трывога.
І радасць не праходзіць міма
Чужых акон,
Твайго парога,
А мы, пацісиуўшы плячыма,
Як прыбядняемся:
— Нічога...
Чаму так, людзі?
Знаю, можа
Адказ гучаць — як адкрыццё:
Натхняць і радаваць,
Трывожыць...

Я ў вас пытаю:
— Як жыццё?..

## ВУЛІЦА БЕСКАРОЎНАЯ

Дамы пад шыферам, утульныя.
Уздоўж платоў —
Прысады роўныя.
І ёсць імя ў прыгожай вуліцы,
А называюць —
Бескароўная.

Каму кароў даверыць?
Каму парадкаваць мурог?
Адны пенсіянеры:
Лічы — без рук,
Лічы — без ног.
І сам я знаю, сумны,
Не абыходзячы двароў:
Мышамі пахнуць гумны,
Хлявы астылі без кароў.
Калі прызнацца шчыра,
Рыкае толькі два хлявы:
Адзін — у брыгадзіра,
Другі — у Веркі, удавы.
Жанчыне спачуваюць:
«Няма пярэдыху ні дня!
Відаць, і пахавае
Цябе Падласка,
Як радня...»
Без рук рабочых — гора,
Чакае шэфаў брыгадзір.

А вёска едзе ў горад —
Па малако,

Смятану,
Сыр.
І маці без каровы
На гэтай вуліцы жыве.
Хавае торф,
Хавае дровы,
Хавае смутак —
У хляве.

Для іх, бацькоў, не навіна:
З зямлёю рвецца сувязь кроўная —
Не толькі вуліца адна,
Лічы, і вёска —
Бескароўная.

# ДОМ САСТАРЭЛЫХ

Спакойны, ціхі кут.
І гэты хорам састарэлых
Нібы схаваўся тут,
У хвоях і бярозах белых.

— Усё ў акно глядзіш, Марыя,
Гасцей чакаеш...
А дарма:
Каму патрэбны мы, старыя,
Цяпер яшчэ, калі зіма?
І ў цёплы час,
Пасля зімы —
Чужыя дзецям нашым мы.
Як кажуць, на капыл адзін
Яны —
Твая дачка,
Мой сын.
Нябось, пабег у магазін,
Дзе грошы трацяць на віно.
А маці тут —
Глядзі ў акно.
— Мая не п'е...
Скажы, Альбіна,
А ты вярнулася б да сына,
Каб сын пазваў?
— О божа збаў!
Лепш сяду ў полі пры дарозе,
Сканаю ціха на марозе.
Ды сын і так не знае недзе,
Што я жыву яшчэ на свеце.

— І я забытая,
А ўсё ж
Пайшла б па снезе басанож,
Пабегла б ноччу да вакзала,
Каб хоць на дзень дачка пазвала,
Каб хоць на дзень...
Адно засну,
Дык бачу вуліцу вясковую,
Вяду дачушку я ў вясну,
Вяду яе, белагаловую,
Бяру на рукі —
І цалую,
І закалыхваю, малую.
Прачнуся, гэты дом убачу —
І плачу я, Альбінка, плачу,
І большы жаль душу агортвае:
Дачка — жыве,
А быццам мёртвая...
— Я ж і кажу табе, Марыя:
Каму патрэбны мы, старыя?
За век пераЖылі нямала,
А ім канца няма, трывогам.
Я рукі б на сябе наклала,
Ды грэх перад людзьмі і богам.
— Альбіна!
Ці ж мая віна,
Што я люблю?
Дачка яна.
І ўстану — цягне да акна...

Далей бы гаварылі, мабыць,
Аб горкай старасці і бедах,
Ды іх,
Бабуль сівенькіх, слáбых,
Якраз паклікалі абедаць.

## ШЧАСЛІВЫ СТРАХ

Які я шчаслівы, што мама
жывая,
Да страху шчаслівы.
*Уладзімір Паўлаў*

Ты шчасцем дзяліўся з сябрамі.
Не дачу, а край свой маеш,
І нас, грыбнікоў, сабраўшы,
Вазіў у Замошша, да мамы.

Магільны грудок аплывае,
Глушэе трава ў агародзе.
А ў снах яшчэ мама жывая,
Цябе выглядае, Валодзя.

Ты з горада рвешся да мамы,
Адтуль, з-пад роднага даху,
Баішся начной тэлеграмы
У сне ты, шчаслівы да страху.

Прачнешся, трывогай працяты,
І раніца шчасце адніме:
Убачыш не матчыну хату —
Магільны грудок на радзіме.

Не вечныя мамы, Валодзя,
Не вечнае шчасце таксама:
Да кожнага з нас прыходзіць
Жалобная тэлеграма.

Ты боль на людзях астудзіш
І смутак прагоніш, як смагу,

Ды ўжо ніколі не будзеш
Такім шчаслівым — да страху.

А свет смяецца, спявае,
Склікае гасцей на бяседу.
Я рады, што мама жывая,
Чакае, калі я прыеду.

Баюся начной тэлеграмы,
Званка начнога баюся.
Паедзем, Валодзя, да мамы,
Я шчасцем з табой падзялюся.

## ЦЁТКА ВОЛЯ

Аслепла цётка Воля,
Жыве нібыта ў хаце без акон.
А гэтак цягне ў поле,
Дзе жыта жала, прыбірала лён.

Аслепла цётка Воля,
Не бавіць за кудзеляй вечароў,
Не ўбачыць лугу болей,
Дзе сена грэбла, пасвіла кароў.

Аслепла цётка Воля,
Не пойдзе ў лес па ягады, грыбы
І дзеразы ў прыполе
Не прынясе, палонніца журбы.

Аслепла цётка Воля,
І голас ніткай суравой дрыжыць:
— Без лугу, лесу, поля
Я — сірата, не хочацца і жыць...

Аслепла цётка Воля,
Але на белы свет не мае зла,
І, паўздыхаўшы толькі,
Суседцы акуляры аддала.

## ВЫСОКІ ГОСЦЬ

Сустрэла маці з пяшчотай,
А бацька — ляжыць на пагосце:
Не дачакаўся з палёту
Яго, дарагога госця.
Адтуль ён,
З блакітнага неба,
Спусціўся ў зямныя будні —
Бліжэй да надзённага хлеба,
Бліжэй да надзённай бульбы.
Высока ўзносяцца дзеці,
Не бачаць, як маці старая
Вось тут,
На зялёнай планеце,
Жукоў каларадскіх збірае,
Змагаецца з пустазеллем,
Рыдлёўкаю бульбу капае —
На рукі адны і ў нядзелю
Работы чорнай
Хапае...
І ён не заседзіцца дома —
У маці, на роднай планеце:
Ад яблыкаў ранніх аскома,
А думкі —
У космасе недзе.
На маці глядзіць з хваляваннем,
Абводзіць вачыма падворак —
Не знае, ці ў дзень пахавання
Адтуль прыляціць ён,
З-пад зорак.

# ЗАЛАТАР

Унукаў вечарам песціць,
І льецца радасць з грудзей,
Калі заспявае песню
Пра лётчыкаў — мужных людзей.

Пры выпадку ціха кіне,
Ды быццам ударыць гром:
— А я на дзяржаўнай машыне
Працую залатаром!..

Лятаў у вучылішчы добра
І ён, малады чалавек.
Шкада, прызямліла хвароба
Блакітную мару —
Навек.

Работай сваёй не грэбуе,
А ўспомніць пра неба зяць —
Адрэжа:
— Некаму ж трэба
І «золата» з ям выграбаць!..

Працуе, устаўшы да сонца,
Каб чыста было на зямлі,
Каб дзеці нашы высока
Падняцца ў неба змаглі.

# ПАДВОДНІКІ

Спявае раніца птушыная
Пад небам светлым —
Ад трывог наўзбоч.
А тут, над нашай субмарынаю,
Сышліся хвалі цёмныя, як ноч.

Далёка ад людзей прыветлівых,
Далёка ад палеткаў і лугоў
Жывём —
Магутныя ракетамі,
Любоўю да радзімых берагоў.

Шляхі падводныя — глыбокія,
Здаецца ў змроку:
Сінь з вачэй сплыла,
Нібыта ўсе мы цемнавокія —
Без сонечнага яркага святла.

Мы пад вадой цябе ахоўваем,
Жытнёвая,
Мурожная зямля.
Ты ў сне галінкаю альховаю
І мятлікам казычашся здаля.

У добры час з паходу вернемся,
І плоць і дух
Праверыўшы на злом.
І дома, на зялёным беразе,
Абмыем вочы сонечным святлом.

# ВЯНОК

Вясна спляла вянок
З травы і першых кветак.
На бацькаў курганок
Прыйшла яна без сведак,
Прыйшла за ўсіх раней —
І ў грудзі боль пастукаў:
Няўжо вясна радней
За нас, дзяцей і ўнукаў?
Сюды, дзе лягу сам,
Спазняемся ў адведкі,
І дарагім бацькам
Вясна прыносіць кветкі.

## ЗА ВЁСКАЙ, У ЖЫТНІМ ПОЛІ

На могілках дзяцел жыве,
Нібы запісаўся ў святыя,
І пад крыжамі ў траве
Чарнеюць шышкі пустыя.

Каб лю́дзям паспагадаць
І смутак развеяць паволі,
Застыла сосен града
За вёскай, у жытнім полі.

За ноч адпачыўшы ў дупле,
Працуе дзяцел без стомы,
І гук бяжыць па ствале
На свет той — глухі, невядомы.

Здаецца, з адсутнымі так
Падтрымліваецца сувязь:
Ад нас ён, крылаты зямляк,
Адстуквае весткі адсутным.

Вялікая пушча гудзе
Ад могілак непадалёку,
А дзяцел на гэтай градзе
Працуе і ў холад, і ў спёку.

Не адлятае дале́й,
Жывым спагадае, дзякуй,
І мёртвым ляжаць весялей
У соснах, агучаных дзятлам.



Ціха ў садзе, быццам у душы,
Быццам зніклі людзі — ні душы,
Толькі ты, ды гэты сад асенні,
Ды твае ўспаміны, летуценні
Звязваюць з жыццём, як міражы...
Ціха ў садзе, быццам у душы.

Ціха ў садзе, быццам у душы.
І такія чары — у цішы,
Што, здаецца, сілы ты не маеш
Закрычаць — і сам ужо знікаеш
У апошнім цьмяным міражы...
Ціха ў садзе, быццам у душы.

## КРЭМАТОРЫЙ

Цяжка засынаць ад болю,
Ад жалобных дум...
Упершыню
Аддалі мы
Сваяка-нябожчыка
Не зямлі, а рытуальнаму агню.

Ноччу мне прысніўся крэматорый.
Я не дыхаў,
Я гарэў у сне.
І жанчына, ніцая ад гора,
Ціха плакала па мне.
Зверху недзе,
З дымнага захмар'я,
Белая цягнулася далонь.
Я гарэў —
І не разгледзеў твару:
Вочы мне закрыў агонь.
Я гарэў,
Але ані не мучыўся,
Быццам моцна спаў —
У тым агні.
І будзіў мяне шчымлівай музыкай
Плач жаночы ў цішыні.
Ад любві,
Ад слёз жывых раптоўна
Ён апаў спярша —
І згас, агонь,
На гарачы лоб лягла ратоўная,
Міласэрная далонь.

Я падняўся з дамавіны чорнай,
А жанчыны ў галавах — няма,
А жанчына, ніцая ад гора,
Стала полымем сама.
Хто яна была?
Душа зямная?
Ці душа, зляцеўшая з нябёс?
Не разгледзеў твару —
І не знаю,
Ад чыіх прачнуўся слёз.
І гадаю,
Мучуся, як грэшнік,
Хоць памры —
Цяпер ужо не ў сне,
Каб дазнацца, хто вось так, згарэўшы,
Да жыцця вярнуў мяне...

А жыццё —
Як сон з працягам:
Зноў у крэматорый мы прыйшлі,
Забіраем урну з родным прахам,
Каб завезці ў вёску —
І аддаць зямлі.

# ЗІМНІ ДОЖДЖ

На сонцы снег не іскрыцца,
І не пяюць палазы,
І могуць толькі прысніцца
Калядныя маразы.

Асенняя непагода:
Зямля і неба ў слязах,
Як быццам плача прырода
Па сонцу і маразах.

Такім перападам дзіўным
І чалавек дапамог:
Над намі — азонныя дзіркі,
Не хмары жывыя, а смог.

Дажджынкі, як горкія слёзы,
Блішчаць на пяску, на галлі.
А можа, гэта нябёсы
Па нашай плачуць Зямлі?

## НАСТАЛЬГІЯ

Здалёк усміхніся вачыма,
Пакліч у дзяцінства здалёк,
Мой Нёман —
Малая радзіма,
Вялікай любові выток.
Усё, што далося нялёгка,
Аддам я, вандроўнік-хадок,
За белы вішнёвы пялёстак,
За жоўты кляновы лісток.
Я зноў вярнуся
На сваю зямлю,
Замру над нёманскаю кручай —
І настальгіі смагу наталю
Любоўю —
Сілаю гаючай.
Жалобны вянок расплящецца —
І кветкамі стане вянок,
А сэрца шчасліва заб'ецца
Ад слова жывога: «Сынок!..»
Спачатку пачнецца дарога
Ад мілых бароў і заток,
Не хопіць ёй шара зямнога —
Пяройдзе ў касмічны віток.
Я зноў вярнуся
На сваю зямлю,
Замру над нёманскаю кручай —
І настальгіі смагу наталю
Любоўю —
Сілаю гаючай.

## СОСНЫ МАЕ БАРАВЫЯ...

Хіба можна ў вас заблудзіцца,
Сосны мае баравыя?
Не драўляныя вы,
А жывыя.

Знікне ў глушы дарога —
Вышай падымеце голле
І чалавека чужога
Выведзеце на поле.

А заблудзіцца хто аднойчы
Тут, дзе жылі партызаны,—
Значыць, сам не жывы,
А драўляны.

# ЛЕС

Ты падарыў сасну,
Каб стала мне калыскаю.
У горадзе жыву,
Але — з тваёй прапіскаю.

Над галавой шуміш
І раніцай, і вечарам,
Мой лес —
Мая любоў,
Высокая і вечная.

Хаджу з тваім кашом,
Хаджу з тваёй кульбакаю.
І загадзя табе
За дамавіну дзякую.

# СЕНАКОС
# НА МОГІЛКАХ

Кусты шыпшыны выраслі,
Расцвіў магільны кут.
Спакойна ў вечным выраі,
Ды цесна мёртвым тут.
Да могілак за хатамі
Прырэзалі зямлі —
Тут будуць спаць аратыя,
Касцы і кавалі.
Зямля ў жалобе змоўкне.
Цяпер жа — сенакос:
Ляжаць пракосы, мокрыя
Ад рос, а не ад слёз.
Звіняць і не маркоцяцца
Жывыя галасы —
Людзей, музы́каў-конікаў,
Мянташкі і касы.
Трава на сонцы сушыцца,
Духмяная трава —
І ў мёртвага закружыцца
Ад паху галава.
І птушкі не самотныя,
І скрозь пчаліны гуд,
Не страшна і самому
Заснуць навекі тут.
І дыхаць канюшынаю
У сне, на свеце тым,—
Пад белаю шыпшынаю,
Пад сонцам залатым.

# НАВАЛЬНІЦА

Хмары прыплылі —
Як на памінкі,
І пры мне заплакалі ў пясок:
Цяжка задыхаліся травінкі,
Кожны лісцік,
Кожны каласок.

Нечакана так пярун ударыў —
Дрэвы задрыжалі да камля,
І дажджом абрынуліся хмары,
Не відаць,
Дзе неба, дзе зямля.

Дзякуй, навальніца!..
Свет змяніўся
Ад маланак, грому і вады.
Лёгка дыхаюць лугі і нівы,
Быццам уваскрэслі сапраўды.

Я таксама дыхаю блакітам,
Не бядую, што ў дарозе змок.
Тут, за вёскай,
Гледзячы на жыта,
Ажываю сам, як каласок.

Будзем з хлебам!..
Далі палявыя
Залацяцца — сонца і вада.
І стаяць буслы, як вартавыя,
На высокім астраўку гнязда.

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З РУК

Над полем спявае жаўрук,
І цэх завадскі прачынаецца —
Усё пачынаецца з рук,
З работы усё пачынаецца.

Зямля прыгажэе наўкруг,
Зямля навасёлаў паклікала —
Усё пачынаецца з рук:
І сад, і будоўля вялікая.

Кавальскага молата стук,
Пакой, цішынёю ахутаны,—
Усё пачынаецца з рук:
І просты станок, і камп'ютэры.

Капры падняліся ўгару,
За шахтамі — поле ўзаранае,—
Усё пачынаецца з рук:
І соль, і буханка духмяная.

Адкрыцці прыводзіць у рух
Не нейкая сіла магічная —
Усё пачынаецца з рук:
І плуг, і ракета касмічная.

Пра подзвігі марыць хлапчук,
На мару з дзяцінства раўняецца —
Усё пачынаецца з рук,
З работы усё пачынаецца.

# ВОСЕНЬ

Восень выкапала бульбу,
Звезла з поля буракі.
І зіму яна, бабуля,
Выглядае з-пад рукі.

На сталах хапае хлеба,
І адно цяпер наўме:
Перадаць радоўку трэба
Гаспадарлівай зіме.

А зіма ў санях не едзе,
Не спяшае, як даўней.
Пэўна, майстра-стэльмах недзе
Не зрабіў яшчэ саней.

Даравадь не можа восень,
Што пяшком ідзе зіма,
І паехала на возе
Сустракаць яе сама.



Падае снег малады
На ўспамінаў сляды,
На сустрэчы і ростані
Падае з памяці проста
Гэты снег малады.

Падае снег малады
На юнацтва сады,
І на сталасці вуліцы
Падае ён, хвалюючы,
Гэты снег малады.

Падае снег малады
На жыццё, на гады́,
Радуе не без горычы,
Быццам больш не паўторыцца
Гэты снег малады.

## КАЛЯДА

Ходзіць з хаты ў хату,
Ходзіць каляда —
Як каза, рагатая,
З лёну барада.

Добры вечар,
Пане гаспадару!
У цябе чырвонцаў,
Як у печы жару,
У дубовых бочках
Піва — у запас.
Можа, знойдзецца
Кварта і для нас?..

Добры вечар,
Пані гаспадыня!
У цябе, у ткаллі,
Строяў дзіўных — скрыня,
У кладоўцы поўна
Сыру і каўбас.
Можа, знойдзецца
Кольца і для нас?..

Добры вечар,
Дочкі-чараўніцы!
Едуць хлопцы ў сваты,
Едуць са сталіцы.
Вы за стол святочны
Селі ў добры час.

Можа, знойдзецца
Месца і для нас?..

Расчыніў бы насцеж
Дзверы, ды шкада,
Толькі ў песнях нашых
Ходзіць каляда.

## ЗНІКАЮЦЬ ІМЁНЫ

З асновай народнай,
З асновай пяшчотнай
Знікаюць імёны —
Алесі, Міроны,
Параскі, Сымоны...
Адходзяць у песні,
Адходзяць у казкі —
Ад бацькавых весніц,
Ад матчынай ласкі.
Прыносяць радзіны
Другія імёны —
Варлены, Крысціны,
Альберты, Ілоны...
З далёкага краю,
З асновай чужою,
Як быццам укралі
Іх там, за мяжою.
А нашы імёны
Знікаюць паволі —
У лесе зялёным,
За жытам у полі.
— Па-рас-ка!..
— А-ле-ся!..—
Гукае трывога,
Блукае па лесе,
А ў лесе — нікога.
Нам трэба духоўна
Ўваскрэснуць нанова,
Каб скрозь загучала
Ты, родная мова.

І вернуцца з песні,
І вернуцца з казкі
Да бацькавых весніц,
Да матчынай ласкі
Алесі, Міроны,
Параскі, Сымоны —
Жывыя імёны
З асновай пяшчотнай,
З асновай народнай.

# РОДНАЯ МОВА — АДНА

Бываюць мовы блізкія,
А родная — адна.
І над маёй калыскаю
Схілялася яна.
З матуляю за грэбляй
У копы сена грэбла,
Спявала — чуў здалёк:
«Цячэ вада ў ярок...»
І на жніве, бывала,
Таксама запявала
Пад музыку сярпа:
«А ў полі вярба...»
Пачуццяў не таіла
І клікала-прасіла:
«Ляці, ляці, мой мілы,
Пазыч у птушкі крылы...»
На чоўне веславала,
Як пра сябе, бывала,
У рэчанькі пытала:
«Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?..»
Здаралася, і плакала,
Ды не рабіла зла,
Да гора абыякавай
Ніколі не была.
Аднак душа шчымела,
Марнела з году ў год,
Нібы асірацела,
Нібы прапаў народ.
Жыла адна ў запечку

З паніклай галавой,
Баялася, што свечку
Паставяць ёй, жывой.
Праз суд вялі за краты,
Глуміліся з яе,
Ды не забілі ка́ты —
Чужыя і свае.
І выйшла ганарова
З запечка, як з турмы,
Каб з ёй, дзяржаўнай мовай,
Народам сталі мы.

# СЛОВА

Божа мой!
Як клапоцяцца аўтары,
Каб імя́ не забылася заўтра.

Ну а слова, яно — не вечнае,
Калі ў слове няма адкрыцця,
Калі слова не забяспечана
Залатым запасам жыцця.

Мы не ведаем імені аўтара,
А вялікае «Слова» жыве —
І, хвалюючы нас, у заўтра
Лебядзінаю песняй плыве,
І пяшчотна гучыць,
І сурова...

Галоўнае,
Не імя пакінуць, а Слова.

# ТРЭБА НАМ СУСТРАКАЦЦА ЧАСЦЕЙ

Трэба нам сустракацца часцей,
Трэба сходзіцца,
Ездзіць у госці.
І самім запрашаць іх,
Гасцей,
З піянерскіх гадоў,
З маладосці.
Трэба нам сустракацца часцей
На праспектах,
На сцежках забытых,
На развілках надзей —
І далей,
І вышэй,
На касмічных арбітах.
Трэба нам сустракацца часцей
Проста так,
Без ніякай нагоды.
І прапісвацца
Ў сэрцах людзей,
Памагаючы людзям —
Заўсёды.
Трэба нам сустракацца часцей,
Трэба ў свеце,
Блакітам абмытым,
Быць дабрэй,
Быць сціплей,
Быць чысцей
Перад вечнай разлукай —
Нябытам.

## МАЦІ

Сынок брыгадзіраў нярэдка
Заходзіць да іх пагуляць,
І жартам яна, суседка,
Яго называе: «Зяць...»

Дачушка наіўна пытае,
Пачырванеўшы чуць-чуць:
— А дзе дарожка тая,
Па якой замуж ідуць?

І абдымае, і туліць,
І песціць дачушку ў адказ:
— Самá ты дарожку тую
Пратопчаш, як прыйдзе час.

Далёка яшчэ да разлукі,
Аднак зашчымела душа
І цяжка развесці рукі,
Пяшчотна-жывыя спярша.

І роўная, і крутая,
І можа ў прадонне ырнуць
Яна, дарога тая,
Па якой замуж ідуць.

Ды як з трывогаю зладзіць
І мудра аб гэтым сказаць,
Калі ў дзіцячы садзік
Яшчэ ён бегае, зяць?..

## ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ

Жорсткі час!..

Каса густая
Засталася ў лістападзе тым,
Дзе сядзела залатая
Ты, нявеста,
Побач з маладым.
Не хвалююцца пад грэбенем,
Пасівелі валасы, як дым,
І сядзіш ты сёння срэбная
На сваім вяселлі залатым.
Прыгажосці дар, як зорка,
У вачах праменіцца ледзь-ледзь.
Закрычалі госці:
— Горка!..
Ды не хочуць вусны саладзець.

Жорсткі час:
Жывеш —
Мяняешся.
І да болю горка бачыць мне,
Як сабе, старэнькай, усміхаешся
Ты, нявеста,—
З фота на сцяне.

# ВЕДЗЬМА

Чаруе надзвычай
Усмешкаю мілай,
Нібы таямнічай
Валодае сілай.

І косы як хвалі,
І вочы-прывабы,
Дык ведзьмай празвалі
Раўнівыя бабы.

Анёлам не рада,
Адваджвае горда,
Як быццам і праўда
Выглядвае чорта.

Апоіць гарачай
Пяшчотаю недзе,
А як жа іначай,
Калі яна — ведзьма.

За шлюбнаю брамаю
Чары аслабнуць —
І стане таксама
Раўніваю бабай.

## ДЗЯВОЧЫ ЛОЖАК

Падушкі ўзбіты рупна,
Высока — для пяшчоты,
Як быццам завіруха
Навеяла сумёты.

На пакрывала полі
Заўсёды цёпла, ціха,
Ды тут, пад небам столі,
Не страшна ім адліга.

А вочы ў вочы глянуць —
І ў хаце ад пяшчоты
За ноч адну растануць
Пуховыя сумёты.

## РАМАН

Чытае дзяўчына раман.
Цікава: завязка лірычная,
А потым —
Туман,
Туман...

Хвалююць чужыя надзеі,
Карціць заглянуць у канец,
Як быццам ёй, маладзенькай,
З героем ісці пад вянец.

Жартуе, падсеўшы, хлопец:
— Даедзем разам хутчэй!..
І топіць, ласка́вы, і топіць
У шэрай паводцы вачэй.

— Вы Ева?..—
З усмешкай ратуе
Ці, можа, топіцца сам.
Ранет разламаўшы, частуе,
Нібыта біблейскі Адам.

— Я князь Святаслаў...
— Еўдакія...
Зірнула — хоць з поезда злазь:
Глыбокія вочы такія —
Не выплывеш, хай ты і князь.

— То дзякуй за яблык...—
Смяецца,
Зацягвае смехам на дно.
І сэрца хлапечае б'ецца,
Як у тапельца, даўно.

Нямеюць на кожным прыпынку,
Галубяць вачамі ранет,
Бо кожны сваю палавінку
Яшчэ не разгледзеў як след...

Адкладзен раман на сягоння,
Развеяўся кніжны туман —
І новы тут, у вагоне,
Завязваецца раман.



Нарадзіўся месяц-маладзік.
Пад вярбою двое —
Упрытык.
Недзе
Белы свет
Шуміць, галёкае.
А тут —
Маўчання дар,
І дыханне —
Частае,
Глыбокае,
Твар у твар.
Час бяжыць,
Гадзіна за гадзінаю.
У цішыні нямой
Слова выспела —
Адно-адзінае:
— Ой!..

Поўным стане над вярбою
месяц —
І вясельны каравай
Замесяць.

# ПЯШЧОТНЫ ТРЫПЦІХ

## ПАЛЬЦЫ

Ад радасці да адчаю —
Такі ў душы перапад:
Я пальцы твае прыручаю
Нясмела, як птушанят.

А пальцы ўцякаюць, смяюцца,
А пальцы сумуюць адны —
З маімі ніяк не сплятуцца,
Не парадняцца яны.

Адважыўся я, нясмелы,
Прыпаў да вуснаў тваіх —
І пальцы спляліся, замерлі
Ў гняздзе, адным на дваіх.

## ДАЛОНЬ

У цябе ласкáвая,
Цёплая далонь,
Быццам вечна плавае
У крыві агонь.

Ад пяшчотна-кволага
Дотыку любві
Зашугала полымя
І ў маёй крыві.

І агнём збіваецца,
Гасіцца агонь...

Вось яна якая
У цябе, далонь.

## ЗАПЯСЦЕ

Другую руку прыручаю,
Сціскаю яе, малую,
І на запясці вачамі
Блакітную жылку цалую.

Ты ўся дрыжыш, як ад ветру,
Ды ў слабасці гэтай — сіла.
На міг адзін ці навекі
Ты мне руку падарыла?

І час спыніўся... Здаецца,
Я стаў бяссмертным ад шчасця:
Губамі крануўся сэрца,
Што б'ецца ў жылцы запясця.

## ЖАМЧУЖЫНА

З вадою гладыш
Прыгалубіла, бачу,
На сене сядзіш —
Ад работы гарачая.

Уся ты з пяшчоты!
На скроні асмужанай
І кропелька поту
Здаецца жамчужынай.

Спакуса — абняць,
Каб аж костачкі хруснулі,
І кропельку зняць
Не рукою, а вуснамі.

# Я НАД ТАБОЙ СХІЛЯЎСЯ...

Я над табой схіляўся, ніцы,
Адбіўся я ў вачах...
І ты хутчэй
Закрыла іх, нібы цямніцу,
Каб я не збег адтуль,
З тваіх вачэй.

Рукамі звязвала да болю,
Абпальвала губамі, як агнём.
— Ідзі! —
Сказала.
І на волю
Мяне з цямніцы
Адпусціла днём.

Навошта мне чужыя вочы,
Навошта воля —
Без тваіх вачэй?
І я чакаю цёмнай ночы,
Каб зноў
Шчаслівым вязнем
Стаць хутчэй.

# ЧАКАЮ АДКАЗУ...

Распалася рук вязьмо.
Ты стала далёкаю марай,
І шлю я табе пісьмо —
У сінім канверце хмары.

Разбудзіць кропелек стук,
А ў стуку тым — заклінанне:
Вярніся да вуснаў і рук,
Да сэрца вярніся,
Каханне!..

Закрыўшы вочы, гляджу,
Як ты ў замужняй цямніцы
Чытаеш радкі дажджу
Пры яркім святле бліскавіцы.

Не кропелькі б'юць у акно,
А чыстай слязою сплывае
Адно толькі слова,
Адно:
Ка-ха-ю...
Ка-ха-ю...
Ка-ха-ю...

Адказу чакаю ўвесь час,
Як быццам і праўда з мары
Ён прыйдзе, жаданы адказ,
У сінім канверце хмары.

## З ТАЕ ЗІМЫ...

З тае зімы,
З вясельнай ночы
Мінула не адна зіма,
І прозвішча сваё дзявочае
Забыла ты, відаць, сама.

А ў ім —
Уся ты:
Смеху музыка,
Пяшчота рук,
Вачэй блакіт...
Да смерці не зміруся, мусіць,
Каб адышло яно ў нябыт.

Бывае, страты лёс варочае.
Я цэлы век хаджу ў журбе —
І прозвішча тваё дзявочае
Шапчу, караючы сябе.

## ЗАЛЯЦЕЛА СНЯЖЫНКА...

Заляцела сняжынка ў акно,
Заляцела сняжынка даўно.
І праменіцца, не растае
З блаславёнай хвіліны тае,
Як адкрыў я акно — у зіму,
Насустрэчу пагляду твайму.
Заляцела сняжынка ў акно,
Заляцела сняжынка даўно.
Ды яна не жывая, на жаль,
А застыла ў душы, як крышталь,
І хаджу я па свеце ў журбе,
Не знаходзячы сёння цябе.
А надзея жыве ўсё адно:
Заляцела сняжынка ў акно.

## СМУТКАМ ДАРАЖУ...

Смуткам даражу —
І свет цудоўны,
Як душа мая, пяшчоты поўны.
Смутак мой —
З вясёлымі вачыма.
І таму праходзіць радасць міма,
Нават не хвалюючы душу.
Свет цудоўны —
Смуткам даражу.



Сляды адцвітання на твары тваім.
Здаецца, што гэта не старасць,
А грым.

Ты ў ноч навальнічную дзверы расчыніш —
І змыецца смутак, і знікнуць маршчыны.
І мілаю станеш,
І весела глянеш,
І зноўку запросіш на белы свой танец.
Закружымся ў свеце далёкай вясны,
Закружымся юныя —
Без сівізны...

Маршчыны, маршчыны,
Не знікнуць яны.

Не верыцца нават,
Што гэта не грым —
Сляды адцвітання на твары тваім.

***

Ніхто не можа ўдарыць жанчыну нават кветкай.

*Сто дзевяты старажытнаіндыйскі закон Ману*

Не ўдару цябе, нават кветкай не ўдару.
Не ўдару жывую,
Не ўдару ў труне,
У памяці — вобраз,
Партрэт — на сцяне.
Не ўдару цябе, нават кветкай не ўдару.
Прыдумай нянавісці страшную кару —
Не дам абарвацца
Закляцця струне:
Не ўдару цябе, нават кветкай не ўдару,
Не ўдару жывую,
Не ўдару ў труне.



На ўсё жыццё —
Адна любоў.
Я ападу з жывога гуду,
Ды лісцем клёнаў і дубоў
Цябе і мёртвы славіць буду.
Жыццё развеецца, як дым,
Жыццё ўваскрэсне ў новым гудзе.
І не галоўнае зусім,
Што і цябе тады не будзе.

*Падняліся галіны ўгару*
*І замерлі таемна.*
*— Каго любіш?*
*— Люблю Беларусь!*
*— То ўзаемна!..*



# БАЛАДА
# ПРА МУЖЫЦКУЮ ПРАЎДУ

## ПРАЛОГ

Дождж ішоў, а ён не змок,
Ён, лісток, у свет блакітны
Вылецеў, як галубок,
З-пад крыла сялянскай світкі.
«Дзецюкі!
Сейце праўду,
Сейце сёння, сейце заўтра,
Не шкадуйце працы, часу,
Бо няма, не будзе спасу
Ад цара,
Ад царскіх служак —
Абдзіраюць нас і душаць,
Прымушаюць бацьку, маці,
Торбу ўзяўшы, жабраваці.
Мы — аратыя і жнеі,
А зямлі няма і жмені:
Запраглі паны ў няволю,
Бы няволя — наша доля,
І сядзець павінны ціха.
Як адолець гэта ліха?
Ёсць адна надзея-рада:
Станьма дружна,
Станьма разам —
Праўда скрозь закаласіцца.
І ўраджай збяром, што сніцца,
Будзе ў нас зямля і воля —
Наша шчасце,
Наша доля.

Дык за вілы, дык за косы!
Адальюцца нашы слёзы
І цару,
І царскім служкам.
Цяжка будзе нам,
Ды здужым —
Сейце праўду ў дзве рукі,
Сейце праўду,
Дзецюкі!..»
У лістку —
І боль, і гнеў,
І надзея...
Людзі рады,
Быццам з неба ён зляцеў,
Галубок «Мужыцкай праўды».
Падняла лісток рука,
І знаходзіць позірк пільны
Подпіс — у канцы лістка:
«Яська-гаспадар з-пад Вільні».

## СУВЯЗНЫ

У пушчанскія нетры і ўдзень
Заглядае не кожны,
Ён павольна і ціха ідзе,
Чалавек асцярожны.
Азіраецца,
Збоку ў кустах —
Быццам нейкія цені,
Ды па-свойску адпрэчвае страх
Рэвальвер у кішэні.
Не чужы ён у гэтым баку,
Ён у пушчы — як дома,
А таіцца яму, земляку,

Ёсць прычына, вядома.
Як жытнёвы акраец і соль,
Што спатрэбяцца заўтра,
Прыдаюць яму сілы пароль
І «Мужыцкая праўда».
Не аслаб,
А рукою такі
Дакрануўся да світкі
На грудзях,
Дзе газеты лісткі
За падкладкай зашыты.
Ён начамі не зводзіць вачэй,
Ён ідзе з-пад Гародні,
Каб і тут запалалі ярчэй
Касінераў паходні...
І замёр,
Не ступае далей,
А рука — у кішэню.
Ды адлегла ад сэрца: алень!
І ўсміхнуўся аленю.
І сказаў:
— Не палохайся, брат,
І мяне не палохай,
Ходзім, бачыш, далёка ад хат
Мы адною дарогай.
Патаемна сустрэліся вот,
Бо падобная доля:
І табе даражэй за жывот
Яна, мілая воля.
Будзем есці кару і грыбы,
Піць з балотнай канавы —
Не ў ярме,
Не ў палоне абы...
Вось чаму, і канаючы,
Не жандара, што цягне ў турму,

Не забойцу-салдата,
А цябе я хутчэй абдыму,
Пацалую, як брата...—
Пад густыя вяршаліны дрэў
Адступіла трывога,
Быццам праўда ў дарозе сустрэў
Аднадумца ляснога.
І ў глушы не блукае наўгад,
Як у думках накідаў —
Недзе тут ён,
Паўстанцаў атрад,
Землякі з Мілавідаў.
На хаду закурыў чалавек,
Папярхнуўся зацяжкай:
Ледзьве чутна прабіўся,
Плыве
Звоны касы —
Пад мянташкай.
І яшчэ не пачуў галасы,
А ўсім сэрцам паверыў,
Здагадаўся па звону касы:
«То яны, касінеры!»
Падняліся галіны ўгару
І замерлі таемна.
— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!
— То ўзаемна!..

КАСІНЕРЫ

Паўстанцы спяць...
І толькі двое
Сядзяць за поўнач, твар у твар,
Глядзяць, як вогнішча штандар

Трапеча тут, у ціхіх хвоях.
Не ўпершыню звяла дарога,
Даўно знаёмыя яны,
Юрась і Вецер — сувязны
Ад Каліноўскага самога.
— Ядвіся як?
— Асірацела...
— А хто памёр у іх?
— Аксён.
І не памёр — загінуў ён.
— Стаяў за праўду нашу смела?
— Каб так!
Пасля начнога балю
Рашыў гасцей пацешыць пан:
Спусціў сабак,
Сабраў сялян,
Каб на забой звяроў зганялі.
Не скмеціў госць адзін нібыта,
З пахмелля бахнуў —
Думаў, звер,
І спіць на могілках цяпер
Ядвісін бацька, ім забіты.
— Паны балююць, весяляцца,
Палююць на людзей...
А вы?
Цішэй вады?
Ніжэй травы?
— Дармá!
Не тыя ўжо сяляне.
У Шчары выкупалі пана,
Шкада, не захлынуўся, гад,
І маскалёў прывёў атрад,
Дык тыя вучаць жыць рахмана.
— Не знаюць гора цар і світа,
А нас яны ўтапталі ў гразь.

У гэтых вось лістках, Юрась,
Пра ўсё гаворыцца адкрыта.
Той маніфест, што цар з панамі
Як быццам напісаў для нас,
О не,
Не клопаты якраз,
А новы здзек і глум над намі.
Кругом чыноўнікаў, як вошай,
І кожны выслужыцца рад.
А як жа!
Гэты царскі ўрад
Ім не шкадуе нашых грошай.
Рабуюць нас — і судзяць самі.
Скажы, хто ў іхні суд ідзе?
Скубуць у тым сваім судзе,
Скубуць, нібыта ў воўчай яме:
Жывеш — і белы свет нямілы.
А войска ў іх,
Каб чынш спагнаць
І не дазволіць застагнаць,
Калі з цябе дзяруць звыш сілы.
Смуткуе не адна Ядвіся,
І трэба з праўдай нашай, брат,
Ісці ў народ,
Ісці да хат,
Каб вёскі ўсюды падняліся...
— Я сёння ў Мілавіды, Вецер.
Ядвіся там...
І перадам
Лісткі знаёмым і сябрам —
Няхай ляцяць яны па свеце.
— Асцерагайся:
Люты вораг,
За праўду могуць і распяць...
— Дабранач, Вецер,

Будзем спаць.
Вярнуся — потым дагаворым...
Датлела вогнішча паволі.
Паўстанцы спяць —
Пад ховай крон.
Пад крыжам спіць Аксён.
А ў іх, лістках лятучых, болю
Жывы агонь не дагарае,—
І ён ускінецца да хмар,
Людской нянавісці пажар,
У пушчы тут, над родным краем.

## ЗАСАДА

Падгнілі бярвенні ўнізе
Тут, у хаце канцавой,
Дзе жыве яна, Ядвіся,
З маці — беднай удавой.
Душыць гора ў гэтым годзе,
Хоць сыходзь у свет з двара:
Ледзь канцы з канцамі зводзяць
Без свайго гаспадара.
Не, Ядвіся дарагая
Не за ім яшчэ жыве,
Ды Юрась дапамагае
Ім, каханай і ўдаве.
Як і ён, Юрась, здалёку
Дзень ступае акурат,
Слаба свецяцца ў паўзмроку
Светлячкі — акенцы хат.
Дзіўнавата, праўда, трохі:
Не гарыць у іх святло.
І Юрась пастукаў тройчы,
Як дамоўлена было.

Улавіў у сенцах крокі,
Бразнуў, як затвор, замок —
І прыгнуўся ён, высокі,
І нырнуў у сенцаў змрок...
*«Не прыходзь, Юрасік мілы,*
*Не прыходзь на край магілы.*
*Павукі сплялі цянёты*
*Хітра так — з маёй пяшчоты,*
*І парваць іх немагчыма*
*Ні рукамі, ні вачыма.*
*Нас запхнулі ў пограб-яму,*
*Нас дваіх, мяне і маму,*
*Пасадзілі нас, а потым*
*Лаз закрылі бочкай-гнётам,*
*Зрушыць знізу — сілы мала.*
*І замову ў свет паслала:*
*Не прыходзь, Юрасік мілы,*
*Не прыходзь на край магілы!*
*Сэрца птушкаю трапеча:*
*Хто данёс, што ў нас сустрэча?*
*Я цябе чакала дужа,*
*Як чакае жонка мужа,*
*Ды сустрэчы я не рада:*
*Там, у хаце ў нас, засада,*
*Павукі сплялі цянёты,*
*Бачыць бог — з маёй пяшчоты.*
*Я сама сканаць гатова,*
*Каб адно дайшла замова:*
*Не прыходзь, Юрасік мілы,*
*Не прыходзь — на край магілы...»*
А Юрась, рукамі скуты,
А Юрась, сагнуты ў крук,
Цяжка рве тугія путы
Ненавісных, дужых рук.
Не збіваюць з ног прыкла́дам,

Не страляе афіцэр.
«Я жывы патрэбен гадам»,—
Разгадаў ліхі намер.
Не чакаў такой сустрэчы —
І паддаўся ім спярша,
Ды ў яго крутыя плечы,
Не халопская душа.
Афіцэра ў лоб ударыў,
Да сцяны пасля прыпёр,
На сябе гайню жандараў
З сенцаў вывалак у двор.
«Нехта выдаў з Мілавідаў»,—
Сцяўся ўвесь, як ад агню,
І атрос з плячэй, раскідаў
Азвярэлую гайню.
Вось яна за хатай, воля,—
Шчара і кусты наўзбоч.
І абмяк, асеў ад болю,
Праваліўся недзе ў ноч.

## ХРЫСТОС

Прабягае па целе мароз
Ад прысуду прыгоннікаў лютых:
Ён людзей бунтаваў, як Хрыстос,
І памрэ, як Хрыстос, у пакутах.
Атачылі канвоем салдат
І глядзяць яны,
Суддзі праклятыя,
Як на хлеб зарабляюць кат
І абодва яго памагатыя.
Падымаюць бліжэй да нябёс,
І, вяроўкамі ўжо не спавіты,
Ён адною рукою, Хрыстос,

Абдымае свае Мілавіды.
Пабляднеўшы,
Над самай зямлёй
Праплываюць аблокі, як сведкі.
А Хрыстос другою рукой
Абдымае за вёскай палеткі.
Пад бярозамі светлымі рос,
Да бярозы прыбіты цвікамі,
Абдымае радзіму Хрыстос,
Абдымае дзвюма рукамі.
Не апусціш у Шчару далонь,
Каб далонь у агні не смылела,
І да сэрца даходзіць агонь,
Спапяляе здаровае цела.
*«Не пакутуй так, не біся:*
*Ты нявінная, Ядвіся,*
*І цябе кахаю я,*
*Чарнавокая мая.*
*Цяжка мне глядзець, як плачаш.*
*Мы сустрэліся, ды, бачыш,*
*Не магу сысці з бярозы,*
*Каб тваё абцерці слёзы.*
*І прашу: не плач унізе.*
*Мужнай, гордай будзь, Ядвіся.*
*Як пяройдзе слова ў дзела,*
*Стой за праўду нашу смела,*
*А гарота счэзне ўся,—*
*Спамяні пра Юрася...»*
Беларус,
Касінер малады,
Ён у неба не просіць збавення,
Ён у неба просіць вады,
Каб агонь прытушыць на імгненне.
І спагадлівы вецер прынёс
На галгофу яму, жывому,

Хмару цёмную, поўную слёз,
Хмару цёмную, поўную грому.
Над распяццем там, угары,
Хмара смутку свайго не хавае,
І сцякаюць па белай кары
Слёзы,
кроў
і вада дажджавая.
Бліскавіцы, як косы, гараць,
Б'е пярун над галгофай бясконца,
Быццам суддзяў прыйшла пакараць
Навальніца — людскі абаронца.
А Хрыстос у небе жыве,
Галаву не звесіў на грудзі,
І жагнаюцца, як у царкве,
І не разыходзяцца людзі.
Ён мужыцкую праўду прынёс,
А яе — не распяць цвікамі,
І ўсміхаецца з крыжа Хрыстос,
Абдымаючы свет рукамі.

## ЖАЛОБА

Хаты ззаду засталіся,
Сэрца б'е, нібы набат,
А бяжыць яна, Ядвіся,
Да паўстанцаў у атрад.
Каты ў пограбе-магіле,
Пахавалі з маці іх
І, здавалася, забылі
Пра нябожчыкаў жывых.
Бочку ссунулі ў нядзелю,
Загадалі ім: «Вылазь!»
Павялі, каб паглядзелі,

Як пакутуе Юрась.
Афіцэр скрывіўся грэбліва,
Афіцэр пачаў крычаць:
«І цябе таксама трэба
Насупроць яго распяць!»
Ён і маці бэсціў, ідал,
А дахаты прывялі,
Прыгразіў, каб з Мілавідаў
Адлучацца не маглі.
Нанач к пану падаліся —
І парушыла загад,
І бяжыць яна, Ядвіся,
Да паўстанцаў у атрад...
*«Ты прыйшоў, Юрасік мілы,*
*Ты прыйшоў на край магілы.*
*Божа, як баляць мне раны*
*На тваіх руках, каханы!*
*Блізка я, і я далёка,*
*Паднялі цябе высока —*
*Дацягнуцца немагчыма*
*Мне рукамі, а вачыма*
*Не залечыш твае раны*
*На руках-нагах, каханы.*
*У слязах маіх мусова*
*Захлынулася замова:*
*Ты прыйшоў, Юрасік мілы,*
*Ты прыйшоў на край магілы.*
*Каб паспела ў час падмога*
*З крыжа зняць цябе жывога,—*
*Абхапіла б я рукамі,*
*Загаіла б я губамі*
*Раны страшныя на целе —*
*І дамоў вярнуўся б цэлы,*
*І жылі б з табой прыгожа*
*Год да ста ці болей, можа.*

*Без цябе і дзень не свеціць,*
*Не хачу я жыць на свеце:*
*Ты прыйшоў, Юрасік мілы,*
*Ты прыйшоў — на край магілы...»*
Пушча цёмная, бы яма,
Ні душы жывой нідзе,
Ды Ядвісю ў лагер прама
Сэрца вешчае вядзе.
Лёгкі шум над галавою,
Быццам ёй без Юрася
Спачуваюць елкі, хвоі,
Спачувае пушча ўся.
Праплываюць у тумане
Дрэвы шэрыя... Калі ж
На святло бярозы гляне,
Не бярозу бачыць — крыж.
Вочы поўныя адчаю,
Кроў застыла на губе,
І Ядвіся закрычала,
Ўжо не помнячы сябе.
Амярцвела ўсё жывое,
Захістаўся ў зрэнках лес,
І не ўбачыла, як двое
Выйшлі ёй наперарэз.
Апусцілася пакорна
На падхват ратоўных рук,
Непрытомная ад гора,
Ад сваіх душэўных мук.

## КАСІНЕРЫ

І наступіў ён, час адплаты:
Напалі разам на салдат
Паўстанцы, выгнаныя з хат,

І тыя, хто не кінуў хаты.
Ад перажытага ўзрушэння
І быў Ядвісін плач-расказ
Апошняй кропляю якраз,
Што перапоўніла цярпенне.
Сюды, да панскага парога,
Сюды, дзе карнікі адны,
І прывяла атрад лясны
Ядвіся, акрыяўшы трохі.
Світае ад агню ў палацы,
Гарыць палац —
Пад самы дах,
І скача полымя ў вачах
Людзей, народжаных для працы.
Юрась на крыжы згас ад болю,
Ды падымае дух сяброў:
Яна за праўду льецца, кроў,
А праўда — гэта хлеб і воля.
Гарачы нораў у сякеры,
Уся ў крыві яна, відно,
Сячэ наводмаш,
Б'е акно
І расчыняе насцеж дзверы.
І на штыку касы таксама
Блішчыць крывавая раса,
Бо зброя страшная — каса,
Калі яе насадзіш прама.
У Мілавідах будзіць хаты
І брэх сабак,
І стрэльбаў бой,
І ног не чуюць пад сабой,
Бягуць і суддзі, і салдаты.
Пажар раздзьмула перамога,
І Юрася з нябёс знялі
На дол, спіною да зямлі,

Паклалі ціха, як жывога.
Мацней яна і з мёртвым, повязь,
Калі ў душы палае гнеў,
А Вецер сам аж пачарнеў
Ад гневу, смутку і любові.
І кажа Вецер:
— Бытта ўчора
Сядзелі мы, як з братам брат,
І вось асірацеў атрад,
Пра клопат наш — не дагаворым.
З Ядвісяй днём,
У вольнай хаце,
Не сядзеш за вясельны стол.
І мы смуткуем навакол,
Сябры твае...
Не ўсім пашчасціць
Дажыць да шлюбнага вянца,
Ды мы адпомсцім за цябе —
І ў гэтай нашай барацьбе
Ты з намі будзеш
Да канца!..
Сякеры ў ход пайшлі тым часам,
І пад Ядвісі беднай плач
Разбілі крыж яны як бач,
Спалілі крыж —
З палацам разам.
Развеяў вецер дыму хмару,
Глядзяць, вяртацца ў лес пара:
На ўсходзе ўспыхнула зара,
Як водсвет новага пажару.
Прыгнулі ад жалобы плечы:
Быў страшны ён,
Кароткі бой,
Забралі і нясуць з сабой
Сяброў, загінуўшых у сечы.

За праўды крык,
За гневу выдых
Не мінаваць жывым пятлі,
І ўсе з паўстанцамі пайшлі,
Усе, хто жыў у Мілавідах.
У вечнасць Юрася панеслі
Ад месца лобнага, ад хат,
Панеслі, каб пасля назад
Вярнуўся, уваскросшы ў песні.

## СУВЯЗНЫ

Расступілася лесу сцяна,
І, нібы сувязная,
Чалавека сустрэла яна,
Пуцявіна лясная.
Ад маўклівага гнёту гадзін
Непамысна ў дарозе,
Непамысна, калі ты адзін,
А тым больш —
У трывозе.
На плячах ад імпэтнай хады
Узмакрэла кашуля,
І пачуў нечакана тады:
Закувала зязюля.
Пра гады́ папытацца гатоў,
Ды мацнее трывога:
А калі пашкадуе гадоў
І налічыць нямнога?
«Ат, ці мала,—
Падумаў пасля,—
Гэтых прымхаў на свеце!
Папытаю ў зязюлі і я
Пра сваё даўгалецце».

Нечакана кальнула ў баку,
Быццам трапіла куля:
Пракувала зязюля «ку-ку»,
І замоўкла зязюля.
Ён падумаў яшчэ, чалавек:
«Год, пражыты на волі,
Не змяняю на катаргі век,
Не змяняю ніколі.
Пабрацімаў загінула шмат
У пятлі і ад кулі,
Ды расце за атрадам атрад,
Голас праўды — пачулі.
Заваёўваем шчасце крывёй,
Не шкада і прапасці,
Каб нашчадкі на мове сваёй
Заспявалі аб шчасці,
Каб зязюля-вяшчунья дарма
Ім гадоў не ўбаўляла,
А збівалася з ліку сама —
І кувала, кувала...»
Пуцявіна лясная здаўна
Дрэва кожнае знае,
І вядзе чалавека яна,
Пуцявіна лясная.
Як жытнёвы акраец і соль,
Што спатрэбяцца заўтра,
Прыдаюць яму сілы пароль
І «Мужыцкая праўда».
Ён начамі не зводзіць вачэй,
Ён ідзе з-пад Гародні,
Каб і тут запалалі хутчэй
Касінераў паходні.
За аселіцу бацька правёў,
Пажадаў: «Да сустрэчы».
А ці ўбачыцца з роднымі зноў,

Сам не знае, дарэчы.
Ён далёка,
Бацькоўскі парог,
А жыццё сувязнога —
Гэта вечная змена дарог,
Днём і ноччу — трывога.
Адбіваўся,
Заблытваў віжоў
І адлежваўся ў спратах,
Ды нарэшце, здаецца, дайшоў
Не адзін ён, а з праўдай.
Падняліся галіны ўгару
І замерлі таемна.
— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!
— То ўзаемна!..

## ЭПІЛОГ

Белы быў, а пажаўцеў
Ён, лісток...
Мы госцю рады:
Ён з архіва прыляцеў,
Галубок «Мужыцкай праўды».
Адшумела многа год,
Ды на мове роднай, мілай
Палымяных слоў зварот
І цяпер хвалюе сілай:
«Дзецюкі!
Сейце праўду,
Сейце сёння, сейце заўтра.
Дапаможа вам надзея:
Толькі той і жне, хто сее.
Знайце, зроблены народ
Не для ўраду, а наадварот:

Для народу ён, урад,
І калі на добры лад —
То павінен год ад году
Так рабіць, як лепш народу.
А пад ім, урадам гэтым,
Стогнем мы зімой і летам:
Абдзіраюць нас і б'юць,
Б'юць і плакаць не даюць.
Сейце праўду ў дзве рукі,
Сейце праўду,
Дзецюкі!..»
Ён умеў, лісток, лятаць,
Ён умеў людзей яднаць
Днём і ноччу, за капцілкай,
Каштаваў ён грошаў пяць,
А жыццём плацілі, ссылкай.
Не забудзе родны край
Аб змаганні, панскіх здзеках.
Наш ён, спадчыны ўраджай,
У гісторыі засеках.
І сярод зярнят буйных
Касіпераў ёсць зярняткі:
Праўду сеялі яны,
А пажалі мы, нашчадкі.
Праўда ў нас на ўсіх адна,
Праўда лучыць пакаленні,
Бо аснована яна
На сяброўстве і сумленні.
І цяпер, у светлы час,
Мы стаім за праўду пільна,
Дружна, як і завяшчаў
Яська-гаспадар з-пад Вільні.

# БАЛАДА ПРА НЕПРЫКАЯНУЮ ДУШУ

Пакаемся,
Ёсць і наша віна
У тым, што пасля Перамогі
Салдатам мёртвым вайна
Дамоў перакрыла дарогі.

## ПРАЛОГ

Адчула, што век дажыла, памірае,
І сына паклікала Мар'я старая,
Сказала пра бацьку:
— Прыходзіў у сне,
Прасіў, каб знайшлі,
Пахавалі ў труне.
Пакутна ляжаць ім
Пад небам адкрытым,
Салдацікам нашым,
Усімі забытым...
Прысніўся Іван —
І душу растрывожыў,
А Мар'я сама і падняцца не можа,
Да ложка драўлянага звузіўся свет.
І зняць са сцяны папрасіла партрэт,
З якога мінулае ў вочы глядзіцца:
І муж малады,
І яна — маладзіца.
Партрэт узяла,
А вачыма, нябога,
Галубіць не памяць,
Галубіць — жывога,
У хаце сваёй абдымае рукамі,
Кашулю святочную зноў васількамі
Яму вышывае на добрую долю —

Блакітнаю ніткай па чыстаму полю.
А долю яго перакрэслілі кулі,
На здымку застаўся —
У белай кашулі.
— Нябожчыку цяжка прыходзіць
здалёк,
Знайдзі яго і пахавай,
Васілёк.
Ты знаеш:
Лісток у шуфлядцы, на дне,
Там пішуць, дзе бацька прапаў на
вайне...
Рукою сухенькаю гладзіць партрэт,
Нібы распраўляе кашулю як след,
Ды не разбягаюцца цёмныя складкі,
І ўздрыгвае голас
У вечнай салдаткі:
— Знайдзі яго косці, сынок, на вайне,
Знайдзі і ў труне пахавай,
У труне,
Каб я не была на тым свеце чужою,
А з бацькам сустрэлася,
З роднай душою...
Адкрылася,
З сына не зводзіць вачэй,
Адкрылася Мар'я —
І стала лягчэй.
І сыну пры ёй палягчэла таксама,
Калі прашаптаў:
— Пастараюся, мама...
А Мар'я рукою ўзялася за біла,
Перажагналася — крыж палажыла,
І ўпала рука, аслабеўшы раптоўна,
На грудзі нямыя,
На крыж малітоўны.

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ «ПОШУК»

Не толькі песнямі радуе мір,
Адкрыліся тайны лясныя —
І сумнай марзянкай
Ляцяць у эфір
Мемарыяльныя пазыўныя.
Пакінуў бы і інвалід, каб мог,
Каляску сваю ці ложак.
Людзей збірае
З дзяржаўных дарог
Экспедыцыя «Пошук».
Назвала зямля наўгародская ўсім
Дакладныя каардынаты:
Пад вёскай Замошша
Ў сорак другім
Палеглі нашы салдаты.
Хаваюць балоты, глухія лясы
Жалобныя медальёны,
А ў іх —
Жывыя яшчэ адрасы
І імёны, імёны, імёны.
І год нараджэння радыст спамяне,
Як быццам гэта — не страты,
Як быццам там,
На далёкай вайне,
Яны ўваскрасаюць,
Салдаты.
Адчулі,
Да памяці іх недавер
Прайшоў, як дурное зацьменне,
І толькі па смерці,
І толькі цяпер
Выходзяць да нас
З акружэння.

Хвалююцца вёскі і гарады,
У думках хаця,
Ды абдымем
Усіх, каго называе радыст,
Вяртаючы імя за імем.
Найбольшага гора няма на вайне,
Чым так, без імя, застацца,
І круглыя суткі
Ў лясным будане
Працуе радыёстанцыя.
Не задыхнуўся марзянкі выток
У небе, расколатым громам,
Дайшлі пазыўныя
І ў ціхі куток —
Да Васілёвага дома.
І кліч незвычайны душу ўсхваляваў,
Як вешчая тэлеграма:
Без весткі бацька яго прапаў
У тых мясцінах таксама.
Васіль — адпускнік.
І без лішніх турбот,
Грыбны закінуўшы кошык,
Сабраўся туды,
Дзе гуртуе народ
Экспедыцыя «Пошук».

## 1942 ГОД

У лес углыбілася рота —
І сцежка знікла неўпрыкмет,
А людзі ўбіліся ў балота,
Ступаюць гужам, след у след.
Іван Сарока, як на ліха,
Вады зачэрпаў — поўны бот,

І нават вылаяўся ціха,
Каб і хацеў, не збавіш ход,
Каб і хацеў, не збочыш недзе
І не расслабішся крыху,
Бо ты залежны ад суседзяў —
Звяно ў адзіным ланцугу.
Асцерагацца ў цемры трэба,
А за плячамі — груз цяжкі:
Сырою бульбаю і хлебам
Напакаваны рэчмяшкі.
Байцы чакаюць, акружэнцы,
Агаладалі ўсе — бяда:
Збіраюць ягады па жменьцы.
Ды хіба ягады яда?
І наблукаліся да змогі
Забеспячэнцы ў шынялях,
Пакуль сабралі бульбы трохі
І хлеб у рэчмяшках запах.
Івану зябка ад туману.
— Частуйся!
Ён сагрэе, дым,—
Кісет з махоркаю трымае
Мінаеў, рускі пабрацім.
Яшчэ да лагера далёка,
Жартуе, ззаду ідучы:
— Ляці хутчэй у полк, Сарока,
І перадай — нясём харчы!
Іван адказвае без злосці:
— Каб меў я крылы тыя, брат,
Злятаў бы заадно і ў госці —
Да жонкі і сарачанят...
Успомніў і ўздыхае сумна,
А думкі — ім не трэба крыл:
Успырхнулі і ўжо пясуцца
На захад, у варожы тыл.

І прызямляюцца, як птушкі,
На прысядзібны шум бяроз,
Галубяць сына, і дачушку,
І жонку, мокрую ад слёз.
Пачуць бы Мар'ін спеўны голас
І падхапіць у лад затым
Такі жывы, такі вясёлы
Яе «Таўкачыкаў» матыў:

*Гэй, гэй, таўкачыкі!*
*Гэй, гэй, дубовыя!*
*Сем год бадзяліся,*
*У адну ступу сабраліся...*

Шкада, заходзяць думкі ў хату,
Ды не вяртаюцца назад,
Каб расказаць яму, салдату,
Пра ўсё, чым даражыць салдат.
Бяда і там не пройдзе бокам,
Іван упэўнены амаль.
Душа баліць: хоць і Сарока,
Ды не лятае ён, на жаль.
А рота сілы зберагае,
Маўчыць, бо змучыла хада,
Чуваць адно, як пад нагамі
Густая плюхае вада.
Спрыяе цішыня начная,
І пад яе лясным крылом,
Напэўна, кожны ўспамінае
Сваю сям'ю, свой родны дом.

## ДУША

Прыходзіў госць — і веснічкі заўсёды
Спявалі весела з такой нагоды.
А тут Васіль не чуў і лёгкіх крокаў,

Нібы з нябёс зляцеў салдат высокі —
У кірзачах і шынялі да пят.
І ў Васіля пытае ён,
Салдат:
— Ці тут жыве Сарока Мар'я?..
Якраз і месяц выглянуў з-за хмары,
І бачна стала, хто прыйшоў у госці:
Пад шынялём наросхрыст —
Толькі косці,
А пад пілоткай,
Асвяціўшы чэрап,
Як у жывога, ззяюць вочы шэрыя,
Трывожачы, прыцягваюць увагу.
Аднак Васіль не адчувае страху,
Глядзіць на госця:
Да грудзей ён туліць
Без дужкі кацялок,
Прабіты куляй.
І ў кацялку ажыў
Шчымлівы гук —
Пясок пацёк
Па шынялі
З-пад рук...
Зніякавеў,
Зайшоў за хмару месяц,
І зноў салдат загаварыў ля весніц,
Рукамі заціскаючы
Пясок:
— Дачушка ў Мар'і той...
І Васілёк...
Маленькі быў,
Пражыў адну вясну,
Калі я адыходзіў на вайну.
Даўно, відаць, смяецца і спявае.
Чаму тады мяне не пахавае?

Не грэшнік я, ды з доляю такою
Душа мая не ведае спакою —
І ад вайны блукае па начах
Вось так,
У шынялі і кірзачах.
А кожны з нас, калі падкосіць смерць,
Магільны курганок павінен мець...
Ажыў у кацялку
Шчымлівы гук —
Пясок пацёк
Па шынялі
З-пад рук.
Заззялі вочы шэрыя на твары
Ад месяца, што выглянуў з-за хмары,
І ён сказаў галоўнае, салдат,
На развітанне:
— Я пайду назад,
А сын па метцы гэтай вось пазнае,
Дзе нада мной шуміць трава лясная,—
І, кацялок свой павярнуўшы бокам,
Ён надпіс паказаў:
Іван САРОКА...
Васіль падаўся ўперад, да салдата,
Раскінуў рукі, крыкнуў нема: «Тата!» —
І прахапіўся, выцірае пот
У цягніку, які бяжыць на ўсход,
Туды, у невядомае Замошша,
Туды, дзе бацьку адшукае, можа.

ДАЛІНА СМЕРЦІ

Не пачулі залпаў пераможных
На зямлі сваёй яны,
Тысячы салдат...

І кожны —
Без магілы, без труны.

Далакопаў мёртвыя чакалі
Дзень у дзень, але дарма,
І ў магіле белай там, дзе ўпалі,
Замятала іх зіма.
Завіруха доўга галасіла,
А зіма ішла на спад —
Раставала снежная магіла,
Зноў адкрыўшы іх, салдат.
Пад кустамі і ў акопах ціхіх
Залівала іх вясной,
І яны ляжалі, пехацінцы,
У магіле вадзяной.
Абсыхалі летам, у спякоту,
А пасля за нас, жывых,
Восень міласэрная журботна
Засыпала лісцем іх.
Быццам страх ці нейкая замова
Адпалохвалі народ,
І сама прырода так, часова,
Іх хавала з году ў год.
Дзе вы, людзі, родныя і блізкія?
Хутка прыйдзе зноў зіма,
А магілы вечнай, з абеліскам,
І цяпер яшчэ няма...

І ляжаць яны, вось так прапаўшы,
Быццам на зямлі чужой,
Абаронцы нашы...
Кожны —
З неприкаянай душой.

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ «ПОШУК»

Хаваюць і летам вады запас,
Не высыхаюць балоты,
І ім, следапытам, дарэчы якраз
Сухія гумовыя боты.
Кашчунства
Трывожыць загінуўшых прах,
Ды тут — работа святая:
Васіль, адпрэчыўшы слабасць і страх,
Людзей з нябыту вяртае.
Шукае навобмацак, як сляпы,
Знаходзіць пры самай дарозе
І рэчы, і косці, і чарапы —
Усё, што яшчэ засталося.
Не ведае стомы,
Спяшаецца ён
Дапасці да роднага праху.
Рукамі выкапаў медальён,
А побач — медаль «За адвагу».
Нарэшце, магчыма,
Адбудзецца цуд,
Пажоўклы лісток развінае —
І аб'яўляецца ў лесе тут
Малодшы сяржант... Мінаеў.
Чужы чалавек, а стаўся сваім,
Нібы Васілю адкрыўся:
На фронце тады,
У сорак другім,
Ён з бацькам яго пасябраваўся.
Адно засмучае:
Да гэтай пары
Ўцалелі не ўсе медальёны.
Лісткі замоклі,
Сатлелі ўнутры —

І зніклі навечна імёны.
Уваскрасае
Адзін з дзесяці —
Салдаты і камандзіры,
І спіс дакладны, як пры жыцці,
Расце на зямлі і ў эфіры.
Дапамагаюць,
Наводзяць на след,
Хаця марудна і цяжка,
То ордэн,
То афіцэрскі планшэт,
То імянная біклажка.
Вяртае і кацялкі зямля —
Без меткі і з меткай чужою,
Але без бацькавага імя
Яны, пабітыя ржою.
Ды верыць Васіль:
Адшукаецца след,
І час той ужо недалёка,
Калі радыст перадасць у свет
І гэта імя —
САРОКА...
Забытыя,
У наўгародскіх лясах
Уваскрасаюць салдаты,
І душы іх па старых адрасах
Знаходзяць родныя хаты.

## 1942 ГОД

На ўсходзе сонца пазалотай
Пафарбавала небасхіл,
Калі на грунт цвярдзейшы рота
Ступіла, выбіўшыся з сіл.

Глядзяць, а лес ужо знаёмы,
Павесялелі хадакі:
Дайшлі-такі, хаця ад стомы
І пацяжэлі рэчмяшкі.
Нішто цяпер не замінае,
Адстаўшы, перавесці дух.
І зноў запаслівы Мінаеў
Кісет дастаў:
— Частуйся, друг...
Пачуў, як збоку недзе звонка
Трашчыць сарока: чы-чы-чы!
— Ці не твая, Іване, жонка? —
Жартуе, побач ідучы.
— Ага! Напэўна не чужая,—
Іван падтаквае ў адказ,—
За стол святочны запрашае —
Сягоння сёмуха якраз...
Шукае птушку пільным вокам,
А сам трывожыцца часцей:
Каб не наклікала сарока
Сюды няпрошаных гасцей.
На кацялок міжволі глянуў,
Падважыў, цешачы руку:
Цаны не мае скарб саля́ны,
Схаваны тут, у кацялку.
І пабялеў: другія гукі
Ўпляліся ў шум галін жывых —
І аўтамат сціскаюць рукі,
І ўвесьператварыўся ў слых.
Да іх не далятаюць кулі,
Ды там, дзе лагер акурат,
Стральбу шалёную пачулі,
Глухія выбухі гранат.
Не пазярнуў ніхто ў балота,
А так, трымаючы харчы,

Наперад кінулася рота,
Каб акружэнцам памагчы.
Снарад сляпы грымотна бухнуў,
Нібы ўзляцеў — з-пад самых ног,
І знік Мінаеў, толькі бульба
Пасля пасыпалася ў мох.
Вачам не верачы ад жаху,
Іван на нейкі міг застыў,
І зноў, адцягваючы ўвагу,
Усплыў «Таўкачыкаў» матыў:
*Гэй, гэй, таўкачыкі!*
*Гэй, гэй, дубовыя!*
*Гэй, гэй, дубовыя,*
*На работу гатовыя!..*
Кругом гуло, і дрэвы секла,
І дыхаў вогненны ўраган —
За год вайны такога пекла
Яшчэ не бачыў ён, Іван.
І Мар'я з дзецьмі, лес, асколкі,
Мінаеў, бульба, чорны дым —
Усё ў адным калейдаскопе
Перамяшалася затым.
Пілотку страціў, соль рассыпаў,
Як поўз праз выбухаў кусты,—
І ахнуў, давячыся хрыпам,
І лёг на кацялок пусты,
Прыкрыў яго сабой нібыта,
Каб не прапаў ён, кацялок.
І на губах, крывёй залітых,
Імя астыла:
— Ва-сі-лёк...

## ДУША

Бывала, і ад вулічнага ветру
Спявалі веснічкі прыветліва.
А тут і іх не разбудзілі крокі,
Нібы з нябёс зляцеў ён,
Госць высокі,
Зляцеў не ноччу ўжо, а ясным днём.
І той жа самы голас пад акном
Пачуў Васіль,
Пачуў — і выйшаў з хаты.
— Даруй, сынок!
Ды я не вінаваты:
Ты рос, а мой спыніўся час —
І не пазнаў цябе мінулы раз...
Гаворыць сіпла,
Быццам ён сасмяг,
І заціскае рану на грудзях,
А з раны той скразной
Замест крыві —
Цячэ святло...
— Да ста гадоў жыві,
Шчаслівым будзь
Пад мірным небам, сын.
З усёй сям'і —
Застаўся ты адзін.
Вайну перабылі, але і потым
Жылося цяжка вам,
Малым сіротам,—
І адляцела ў рай душа дачушкі.
Я абяцаў, ды не прынёс ёй стужкі,
Блакітныя, прасіла, хоць адну,
Калі я адыходзіў на вайну.
Ці ж думаў, што без весткі прападу,
На ваша гора,

На сваю бяду?..
Ад першай стрэчы ён змяніўся, бацька:
Стаіць ужо не ў шынялі салдацкім,
А як да войска —
У кашулі белай.
Ды пад кашуляй цень заместа цела,
Няма і твару, толькі вочы шэрыя
Глядзяць на Васіля,
У цуд паверыўшы,
І ўспыхваюць,
І цьмеюць ад пяшчоты.
— О, як хацеў я зняць шынель і боты
Вось тут, сынок,
У хаце з хлебным духам,
Каб маці нашу падмяніць за плугам,
Каб за сямейны стол вяртацца з поля
І вас любіць,
Дзяцей...
Аднак — не доля.
А за магілу — дзякуй!
І павер:
Душа мая спакойная цяпер,
Пайду пад свой пясчаны курганок,
Не патрывожу больш...
Бывай, сынок!..
Руку адняў,
І не цячэ святло —
Прапала рана, як і не было.
Васіль глядзіць — ужо далекавата,
Рвануўся напярэймы, крыкнуў:«Тата!»—
І прахапіўся
Не пад родным дахам,
А ў цягніку, які бяжыць на захад,
Туды, туды, у кут, з маленства мілы,
Туды найперш, да матчынай магілы.

## ЭПІЛОГ

За вёскай на ўзгорку не сеюць, не косяць,
За вёскай на ўзгорку — маўчаць ці галосяць,
Праводзячы родных сваіх у нябыт —
Сюды, дзе крыжы выцясняе граніт.
На помніку гэтым,
Пад здымкам,
Глыбока
Імя ўвекавечана:
Мар'я Сарока...
І сын на кладах спавядаецца маці,
Як быццам жывой і здаровай —
У хаце:
— Я бацьку знайшоў,
Пахаваў у труне,
Як ты і прасіла,
Адкрыўшыся мне...
На маці глядзіць праз жалобную дымку,
І маці ўсміхнулася, бачыць, на здымку,
А здымак з партрэта таго, са сцяны,
Дзе з бацькам знялася яна —
Да вайны.
Прыспешвае маці вачыма: «Расказвай...»
— Збіралі па костачках,
Складвалі разам,
І колькі іх з бацькам ляжыць у труне,
Пад векам адным,—
Невядома і мне...
А маці глядзіць запытальна, нямая.
Успомніў, вузельчык з зямлёю трымае,
Вузельчык з зямлёю пясчанай —
Адтуль, дзе з пашанай
Яны пахаваны,
Салдаты, загінуўшыя на вайне,—

Па дзесяць ці болей —
У кожнай труне.
Пра ўсё перажытае сын не расказвае,
Укленчыў у смутку,
Вузельчык развязвае,
І, даўкі камяк пракаўтнуўшы праз сілу,
Зямлю ён на матчыну сыпле магілу —
Да помніка бліжай...
— Ад бацькі прывёз...
Здалося ці, можа, і праўда з нябёс
Дайшоў, заміраючы, голас глухі:
— За ўсё табе дзякуй,
Сынок дарагі!..
Галубячы,
З сына не зводзіць вачэй,
І ён ажывае, і Мар'і лягчэй:
Душа яе там, за нябыту мяжою,
Нарэшце сустрэлася з роднай душою.
Убачыў Васіль праз жалобную дымку
І бацьку Івана пры маці на здымку,
Убачыў дваіх,
Як на даўнім партрэце,—
І слёз не стрымаў,
І заплакаў ён, трэці,
Ад іх маладой, закаханай усмешкі —
Па смерці сышліся жыццёвыя сцежкі.

# БАЛАДА ПРА МЕСЯЧНАЕ СВЯТЛО

## ПРАЛОГ

Ты не чужая даўно,
Сонца, якое ўзышло.
Льецца ў маё акно,
Льецца ў душу святло.
І хвалююць мяне,
Цешаць пасмы святла,
Быццам тут, пры акне,
Ты касу распляла.
Дзверы ўсе да адной
Паразнасцежыць дом —
Сядзеш побач са мной
За вясельным сталом.
А пакуль у пакой
Ты яшчэ не зайшла,
Я дрыготкай рукой
Гладжу пасмы святла.
Абнадзейвае лёс,
Свет зямны — не мяжа,
І да самых нябёс
Узлятае душа.

## ЛЮДМІЛА

За вёскай блізка—пушча векавая.
Ласі да нас заглядваюць, бывае,
І вёска ў госці ходзіць,
Вёска знае:
Сваячка-пушча —

Ягадна-грыбная.
Прайшлі гады́,
І ў родны кут сюды
Вярнуўся я, настаўнік малады,
Купалы пачытач і, не сакрэт,
Рамантык сам і крышачку паэт.
Люблю вось так прачпуцца, на дасвецці,
Яшчэ ні маці, ні кругом суседзі
Не пыняць гаспадарку, ціха ў нас,
І для шчаслівых думак —
Самы час.
Пачуццяў светлых б'е мацней крынічка
Цяпер, калі да нас геаграфічка
Здалёк прыехала, зірнула міла
І падарыла мне імя́ —
Людміла.
У хаце цёткі Бэлі кватаруе,
Дапамагае цётцы, як чаруе:
Пакойчык заняла —
І ў цёткі Бэлі,
Здаецца, вокны раптам пасвятлелі,
А ў тое, дзе жыве, да цемпаты
Заглядвае сланечнік залаты.
Я сам бы стаў сланечнікам, здаецца,
Каб паглядзець, як спаць яна кладзецца,
А ранкам туга, у вянок касы,
Густыя заплятае валасы.
У інстытуце шмат было дзяўчат,
Ды пі адна вось так, на добры лад,
Зачараваць не здолела тады,
У светлыя студэнцкія гады́.
Як заклінанне, паўтараю: «Люся»,
Нібы забыць імя баюся.
Заплюшчу вочы —
Хата выплывае,

Пафарбаваная, святочна ззяе,
Як быццам у нябёс, святлом залітых,
Яна для сцен пазычыла блакіту.
Шкадую, цётка Бэля — не радня,
У хату іх заходзіў бы штодня,
І стала б сваццяй цётка Бэля, можа,
Бо ўмее гаварыць яна прыгожа —
І не адзін ужо сямейны рой
Жыве шчасліва, дзякуючы ёй.
Малюю так уя́вы пэндзлем хуткім:
Сядзіць нявеста ў вэлюме бялюткім,
Чаруе ўсмешкай і вачэй святлом.
Крычыць застолле: «Горка!..»
І ўстаём,
Абняўшыся, гасцей усіх лагодзім,
Цалуемся — жыццё сваё салодзім
На дзень, на ноч, на многа-многа год —
Няма пітва мацней, чым гэты мёд...
Ляцяць яны, хвіліны і гадзіны,
Ляцяць, як думкі —
Да адной-адзінай.
Відаць, і Люся паднялася недзе,
Бо маці ходзіць і не спяць суседзі,
Чуваць, заводзіць трактары калгас.
І мне збірацца ў школу — самы час.

## СПАТКАННЕ

Заціхлі ў калідоры шум і крокі,
Званок маўчыць —
Усе пайшлі на ўрокі.
А ў нас акно, як завуч кажа часам,
І ўпершыню з Людмілаю сам-насам
Застаўся я ў настаўніцкай, шчаслівы.

Хвалююся, і чырвані прылівы
Не тушаць, а ўзмацняюць хваляванне—
Такое незвычайнае спатканне.
Маўчу, як быццам праглынуў язык,
Праглядваю я, класны кіраўнік,
Вучнёўскіх дзённікаў стажок высокі.
Рукою чую, як палаюць шчокі,
Злавіў украдкам позірк мімалётны
І бачу:
Мігам ён,
Агонь пяшчотны,
Успыхнуў, залівае мілы твар.
Не знаем, як утаймаваць пажар,
І гэты наш агонь —
Нібы прызнанне.
Нацягнута між намі праз маўчанне,
Як павуцінка, тоненькая ніць,
Здаецца, чую, як яна звініць
У цішыні нямой...
Парваць баюся,
Малю, каб не парвала жартам Люся:
Калі і звяжаш — вузел застанецца.
А Люся, бачу, нават не ўсміхнецца,
Сур'ёзная, маўчыць, як незнаёмка,
Маўчыць, хаця маўчаць ужо няёмка.
Загаварыць таксама немагчыма
Аб тым, што ясна сказана вачыма
Раней, у той благаслаўлёны міг,
Калі пачырванелі мы ўдваіх.
І я гартаю доўга дзённік тонкі,
Разглядваю асобныя старонкі,
Бо ў кожным дзённіку пасля адзнакі—
Яе аўтограф...
І за гэта дзякуй!
Не мне пакінула аўтограф, знаю,

Ды рыску кожную запамінаю,
Як быццам тут,
У прозвішчы дзявочым,
Уся яна —
Дыханне, голас, вочы.
Гарэлі б да званка, напэўна, шчокі,
Ды падкаціўся яблык жаўтабокі,
На дзённік лёг,
Спакуслівы ласунак,—
І ход спаткання свой змяніў кірунак,
І музыка, здаецца, загучала.
— Частуйцеся! —
Людміла мне сказала.—
У гаспадыні — поўны агарод...
— Антонаўка?
— Ага! Як мёд!
— То дзякуй вам! —
Знайшоўся я нарэшце,
Узяўшы яблык.
— На здароўе, ешце! —
Зірнула зноў
І ўбок не адвяла
Вачэй, паўнюткіх ласкі і святла.
А я пашкадаваў, пачуўшы крокі,
Што хутка гэтак скончыліся ўрокі.

## ЗМЕЯЛОЎ

Да Люсінай гаспадыні
Прыехаў пляменнік, Яўсей,
Прыехаў аднекуль з пустыні,
Дзе быццам бы ловіць змей.
Глядзім, у касцюме шыкоўным
Зайшоў малады чалавек —

І да Людмілы Пятроўны,
Нібыта знаёмыя век.
Пра дзіўнага госця нядаўна
Я ўведаў з Люсіных слоў.
— Дык гэта вы,—
Здагадаўся,—
І будзеце змеялоў?
— Ну, ясная справа! —
Весела
Ён адказвае, госць.—
І такая прафесія
Ў Сярэдняй Азіі ёсць.
Пра змей расказаць і пазвала
Людміла Пятроўна якраз.
Нябось змеялоў бывалы
Яшчэ не заходзіў у клас...
— І нам паслухаць цікава.
Не страшна?
— Спачатку і я
Палохаўся, ясная справа,
Калі падпаўзала змяя.
Застыне, як нежывая,
Ды кроў ледзяніць пагляд,
Нібыта ў вачах хавае
Не проста нянавісць, а яд.
Прыціснеш хуценька ботам,
Каб не ўзняла галавы,
І ў цёмны мяшэчак потым
Кідаеш — скрутак жывы.
Яны каварныя, змеі,
Але і карысці шмат:
Ад ста хвароб панацэя,
Сабраны па кропельцы яд.
— І вас ніякая кобра
Не тпула там, у пясках?

— О не!
Хваліцца нядобра,
Ды я працую, як маг.
Адно расслабляцца нельга,
Ну, ясная справа, яшчэ
Патрэбны жалезныя нервы —
І ядам не апячэ.
Ёсць розныя змеі ў пустыні,
Вось гэта, напрыклад, гюрза...—
І татуіроўку сінюю
На кісці рукі паказаў.
Чужы чалавек, а ўсё роўна
Забілася сэрца часцей,
Калі з Людмілай Пятроўнай
На ўрок пайшоў ён, Яўсей.

## НЕРУШ

Пасля цяпла, пасля дажджу
грыбнога
Баравікоў у пушчы, кажуць, многа.
Пад ручку кош набрала цётка Бэля,
Ды не абы-якіх —
Крамяных, белых.
А я грыбнік стары і знаю схованы,
Дзе кружыць голаў дух баравіковы,
Дзе, як жартуе Бэля, і сляпы
Баравікоў нарэжа паўкапы.
І вось іду ў грыбы,
А побач — Люся.
Дзіўлюся, як на фею, і баюся
Яшчэ паверыць, што яна са мною
Ступае лёгка сцежкаю ляснбю.
А сцежка ўецца — вузкая такая,
Нібыта нас сумысна сутыкае.

Сустрэўшыся, палохаюцца рукі
І зноў, пасля кароценькай разлукі,
Сыходзяцца, пакорныя, унізе.
Спляліся ў вузел,
Ласкава спляліся,
І гэты вузел цесны з пальцаў мілых
Я развязаць цяпер ужо не ў сілах.
Шапчу:
— Не развядзе нас сцежка, верыш?
Смяецца, хітрая:
— Ну, дзе твой неруш?
— Мой неруш — ты, адна...
— Няма грыбоў,
Дык пачытай што-небудзь пра любоў.
Ці пра любоў не пішаш ты?
— Пішу,
Калі вось так ускалыхнуць душу:

*Я хацеў бы стаць сланечнікам*
*Пад акном тваім —*
*Навечна,*
*Каб вачэй з цябе не зводзіць*
*З раніцы да вечара...*

Усхваляваны, за руку патузаў,
Адчуў, як патужэў удзячна вузел,
Замерлі пальцы —
У маўклівай згодзе.
Ды зноў смяецца:
— Дурань мілы, годзе!
А пу́дзілам не хочаш стаць?
— Згаджуся.
Не буду спаць,
Адваджваць буду, Люся,
Калі які крумкач залётны днём
Захоча сесці пад тваім акном.
Нікому не аддам цябе, мой неруш,

Нікому не аддам,
Нікому...
Верыш?
— Веру.
Дзякуй за такія словы,
Сланечнік мой чорнагаловы...
Распаўся сам сабою пальцаў вузел,
Сасмяглыя, зліліся нашы вусны —
І рук вязьмо, ускінутае мною,
Упершыню сышлося за спіною
Каханай —
Роднай і такой жаданай,
Зямлёй і небам мне наканаванай.

## ЗАРУЧЫНЫ

Заручыла нас, каб век жылі,
Свацця — пушча векавая.
Ты адна такая на зямлі,
Ты адна такая...

Вочы ад пяшчоты расцвілі,
Па шчацэ святло сцякае —
Ты адна такая на зямлі,
Ты адна такая...

Чуеш, вецер дыхае ў галлі,
Птушка кожная спявае:
Ты адна такая на зямлі,
Ты адна такая...

Страшна і падумаць, што маглі
Не сустрэцца, дарагая,—
Ты адна такая на зямлі,
Ты адна такая...

ВЕРАД

Асеннім часам клопатаў хапае:
Да ночы бульбу вёска ўся капае.
І мы, настаўнікі, дапамагаем,
Каб вёска пахвалілася ўраджаем
Пасля дакопак, як мага хутчэй,
Галоўны клопат скінуўшы з плячэй.
Заўсёды, як ні быў бы я заняты,
Хоць раз у дзень прайдуся каля хаты,
Блакітнай хаты,
Пад акном якой
Сланечнік мой заглядвае ў пакой.
І сёння крук зрабіў, каб хоць употай
На мілае акно зірнуць з пяшчотай.
Замёр, такой не верачы нагодзе:
Капае бульбу Люся ў агародзе,
Капае не адна, не з гаспадыняй,
А з ім, Яўсеем...
Галаву падыме,
Адорыць позіркам —
І зноў схіляецца,
Нібы ў паклоне перад ім,
Стараецца:
Яўсей карчы падкопвае рыдлёўкай,
Яна — у кош збірае бульбу лёгка.
Стаміўшыся, адпачываюць разам.
І бачна, што для іх работа — радасць,
Як быццам не работа, а гасціны.
Яўсей сарваў антонаўку з галіны,
Частуе...
Толькі, як узяць, калі
Карчы трасе,
Капаецца ў зямлі.
І Люся з рук зямлю не атрасае,

А яблык так, з чужой рукі, кусае
Ды з куснаў сок аблізвае, смяецца,
За яблык смехам дзякуе, здаецца.
І гэты смех, такі жаданы ўчора,
Вярэдзіць сэрца мне,
Гняце, як гора.
Шчаслівы быў бы, каб яна заплакала,
На яблык паглядзела абыякава
Ці хоць бы зараз перастала грызці,
Адвёўшы ўбок руку —
З гюрзой на кісці.
Яўсей пляменнік цёткі Бэлі ўсё-ткі,
А Люся кватаруе тут, у цёткі,
І я падумаў з рэўнасцю і страхам,
Што будуць начаваць яны пад дахам
Адным, у гэтай хаце-пяцісценцы,
Калі замкне да ранку цётка сенцы,
Яўсей і сам кусае яблык, бачу,
Кусаюць удваіх...
І ледзь не плачу:
Здаецца, так, праз яблык сакаўны,
Цалуюцца, шчаслівыя, яны,
Цалуюцца, аслепшы ад пяшчоты,
Не заўважаюць, хто стаіць за плотам.
І я пайшоў, прыгнуўшыся, ад хаты,
Пайшоў употай, быццам вінаваты:
Падгледзеў нечаканую развязку
Заручын нашых...
І парушыў казку
Пра залаты сланечнік і пра неруш.
«Дзівак! — упнуў сябе —
У казкі верыш...»

## СОН

Пад зоркамі, пад месяцам высокім
Зямля спавіта цішынёй і змрокам.
Я небам дыхаю —
І лёгка стала.
За вёскай, блізка недзе, зорка ўпала
І згасла, быццам ад майго дыхання.
А я глядзеў — не загадаў жадання,
І толькі думка ўспыхнула, як знічка:
«Ці спіць яна цяпер, геаграфічка?»
Акно закрыў —
І лёг, заплюшчыў вочы,
Закалыханы цішынёю ночы.
Прысніўся сон:
Дзяўчына пры акне
Ў двары сядзіць — спіною да мяне,
І валасы яна, дзяўчына тая,
На дзве палойкі дзеліць,
Заплятае
Ў касу адну, закінуўшы на грудзі.
А ў небе ціха, каб яе не спудзіць,
Крумкач раскінуў крылы,
Сочыць пільна —
І падае,
Зніжаецца няўхільна.
Пры самай хаце сеў, расце, таўсцее,
Змяніўся на вачах —
І стаў Яўсеем.
Дзяўчына нават войкнула, здалося,
І тварам павярнулася да госця.
Пазнаўшы, я жахнуўся:
«Божа, Люся!»
Прыкрыць хацеў, ды з месца не скрануся,
І голас адняло — нямы стаю.

Гляджу:
Ператварылася ў змяю,
Угору галаву ўзняла,
Смялее —
Шыпіць, вачэй не зводзячы з Яўсея.
А ён змяю прыціснуў ця́жкім ботам,
За галаву схапіў рукою потым,
Падняў —
І да вачэй падносіць смела,
Другой рукою гладзіць-лашчыць цела
Ды шэпча штосьці, бы замову знае.
І не шыпіць змяя:
Яна — ручная,
Як для пяшчоты прыадкрыла рот,
Нібы ў зубах яе не яд, а мёд.
Яўсей таксама, бачу, закаханы,
Схаваў змяю ў мяшэчак палатняны
І ўжо тады, з мяшэчкам за плячом,
Перамяніўся зноў —
Стаў крумкачом.
У бок мой зіркнуў, выплеснуўшы гнеў,
І раптам засмяяўся-зазвінеў —
І крылы развінуў,
І знік за хатай...
Я прахапіўся на пасцелі змятай
І не адразу ўцяміў, моцна здзіўлены,
Што звоніць на стале маім будзільнік.
Мінула ноч —
І ўсё ў душы ачнулася,
І ўсё назад,
У новы дзень, вярнулася:
І боль, і рэўнасць, і глыбокі смутак.
Гадай цяпер, разгублены, чаму так
Жыццё змяніла ход,
Змяніла крута:

Успомніць ці сасніць — і то пакута!
Свяціла сонца, ды пярун ударыў —
І я не стаў сланечнікам, як марыў.

## ЗМЕЯЛОЎ

З Яўсеем я, невясёлы,
Даўно размінаўся без слоў,
І да мяне каля школы
Ён сам падышоў, змеялоў.
Густою паўднёваю спёкай
Прыгожа апалены твар,
А вочы, запаўшы глыбока,
Пабліскваюць,
Светлы янтар.
— Частуйся! —
І семак з усмешкай
Адсыпаў, нібы сябруку,
Ды семкі тыя не цешаць,
А колюць, як стрэмкі, руку.
Яўсей не бачыць і меле,
Як быццам і праўда не рад:
— Яна сасватала, Бэля,
А цётка настырная, брат.
І сам не думаў ніколі,
Што Люсю звязу, зразумей.
Расказваў пра змей у школе —
Цяпер пакажу іх, змей.
Гісторыя з геаграфіяй
Якраз і зблізілі нас,
Ну, ясная справа, патрафіў
І я прыехаць у час.
А там, у Сярэдняй Азіі.
Я не бяздомны, як госць:

Для шчасця, ва ўсякім разе,
Пакойчык асобны ёсць...
Руку з гірзою на кісці
Пада́ў, каб пацісвуць маю,
Ды я, зацяты, адкінуў
Руку, нібыта змяю.
«Глядзі ты! —
Падумаў са злосцю.—
Руку падае — блаславі!»
І семкі-стрэмкі, здалося,
Ўпіліся ў далонь да крыві.
— Дзівак!
Азлобіла рэўнасць,
А ў рэўнасці воч няма:
Згадзіся, выбар, урэшце,
Зрабіла яна сама.
Калі б Людміла і праўда
Кахала цябе, паэт,
Са мною, ясная справа,
Не паляцела б за свет...—
Раскрыўся, душу аблегчыў
І ў вырай збірацца пайшоў —
Высокі, шыракаплечы,
Упэўнены ён, змеялоў.
Я ўсё зразумеў, тым не менш,
Зусім згубіў галаву,
І семкі з бязвольнай жмені
Пасыпаліся ў траву.

## ПУДЗІЛА

Ляцяць у вырай жураўлі над вёскай,
Знікаюць там, за цёмнаю палоскай
Высокай пушчы...

Горычы — даволі!
А развітальны крык шчымлівым болем
Асеў у сэрцы і з маім змяшаўся:
Яна — у вырai,
А я застаўся
Пад родным небам —
Ціхі і самотны.
У сэрцы боль,
Але і боль — пяшчотны.
Замест Людмілы —
Новы ў нас географ.
І толькі ў дзённіках
Яе аўтограф
Уваскрашае дарагія словы:
«Сланечнік мой чорнагаловы...»
Дамоў іду паўз луг, укругавую,
Каб завярнуць на вуліцу другую
І мімаходам глянуць перад сном
На залаты сланечнік пад акном
Блакітнай хаты,
Дзе святла хапала
Тады, калі там сонца начавала.
Здалёк яшчэ адкрыў:
У цёткі Бэлі,
Як і ў суседзяў, вокны пацямнелі —
Усе, і тое, дзе жыла Людміла,
Асірацеўшы, згасла і астыла
Без сонечных вачэй яе...
І самі
Радкі наіўныя прыйшлі на памяць:
*Я хацеў бы стаць сланечнікам*
*Пад акном тваім —*
*Навечна,*
*Каб вачэй з цябе не зводзіць*
*З раніцы да вечара...*

Няма, аднак, сланечніка пры хаце,
Скруціў яго Яўсей у цёткі-сваццi —
І толькі доўгае сцябло без лісця
Тырчыць і сведчыць, як палаў калісьці
На месцы гэтым ён, святла паклоннік,
І асыпаўся цвет на падаконнік.
А вось такога не чакаў, прызнацца,
І сам не знаю —
Плакаць ці смяяцца:
Засеян жытам клін у агародзе —
І пудзіла стаіць, гляджу...
Выходзіць,
І без Яўсея цётка ўжо, самохаць,
Вартаўніка знайшла —
Варон палохаць.
І я збялеў,
І я ўсміхнуўся горка:
Згадалася прарочая гаворка
Пра пу́дзіла тады, у час заручын,
Пад сховай дрэў...
І гэта згадка мучыць:
Не пудзіла, а сам стаю нібыта,
Сачу, каб не дзяўблі вароны жыта.
У хаце дзверы раптам зарыпелі,
І я пайшоў —
Далей ад цёткі Бэлі.
А жураўлі, калышучы аблокі,
Усё ляцяць,
Ляцяць у край далёкі,
І крык у сэрца ападае болем,
І болю сэрца не ўмяшчае болей —
Навек яго ў душы сваёй хавае
За вёскай нашай пушча векавая.

## ЭПІЛОГ

Ты ў мінулым даўно,
Сонца, якое зайшло.
Льецца ў маё акно
Месячнае святло.
І хвалююць мяне,
Цешаць пасмы святла,
Быццам ты пры акне
Валасы распляла.
З маладосці маёй
Ты вяртаешся ў дом
Не душою жывой,
А чароўным святлом.
І лаўлю я рукой,
Гладжу пасмы святла,
Быццам праўда ў пакой
Ты нарэшце зайшла,
Быццам зжаліўся лёс,
Разлучыўшы спярша,—
І да самых нябёс
Узлятае душа.

*Жыццё, бывае, перыць,*
*Трымае ў кулаку,*
*Ды лепей праўды перац,*
*Чым мёд на языку.*



## ЛЫСЫ РОЗУМ

Лявон хадзіў пахмуры,
Не спаў Лявон — тачыла злосць:
Сусед Іван не дурань —
Машына, дача ёсць
І жонка Груня-
Прыгажуня.
А ён адзін у хаце
І бедны, не сакрэт:
Усё яго багацце —
Сабака ды веласіпед.
Лявон ад зайздрасці аж высах,
Пачаў Лявон гадаць:
«І малады сусед, ды лысы,
Ад розуму, відаць!»
І ён уверыў слепа:
Каб галаву на карку мець,
Яму таксама трэба
Разумна палысець.
Дарэмная надзея:
Аблез без клопатаў Іван,
А ён ніяк не палысее,
Бо кучаравы, як баран.
І стрыгся «пад нулёўку»,
І брытвай потым скроб,
Ды набягалі зноўку
Атавы кудзеркі на лоб.
Сабака ўпрочкі збег,
І з'ездзіўся веласіпед.
Бародку, як на смех,
Адгадаваў сусед.

«Ну хоць бы плешынка з арэх!» —
Лявон чакаў дарма.
На скроні выпаў снег,
А лысіны — няма.
Зусім адчаяўся Лявон,
І тут адбыўся цуд:
Нарэшце палысеў і ён —
Ад часу і пакут.
Сусед Іван з унукаў кучай,
Лявон — адзін у хаце,
У лысіне бліскучай —
Усё яго багацце.
У дзверы стукаецца смерць,
І ён шкадуе аб адным:
Паразумнеў, каб зразумець,
Што і памрэ дурным.

---

Спрыяе лёс па-рознаму,
Але старая ісціна:
Калі не даў бог розуму,
Не дапаможа лысіна.

## МЯДЗВЕДЗЬ

«Жонка, давай сала!» —
Крычаў за сталом Мацей.
А гаспадарыў нядбала,
Ну, лынды біў, карацей.
Худзенькая жонка карпела
Пры хаце і ў полі адна,
Каб зэканоміць капейку,
І ў святы пасціла яна.
Сварылася на Мацея:
«Мужчыны вунь на касьбе!
А ты за сталом пацееш,
Ясі — як не ў сябе!»
«Дурная!
Не трэба шумець,—
Мацей супакойваў тады.—
Усю зіму, як мядзведзь,
Я праляжу без яды,
І зэканомім нямала
І хлеба,
І масла,
І сала.
Не бойся, разбагацеем,
Не прападзеш за Мацеем!»
Злавалася жонка ціха,
Каб не пачулі суседзі:
«Ну вось!
Не хапала ліха,
Дык запісаўся ў мядзведзі!..»
Душылася ў агародзе
Яна, выціраючы пот,

Пакуль Мацей на выгодзе
І ўвосень нагульваў жывот.
Пад ветру паўночнага спеў
Пахаладала патроху,
Мацей на цёплую печ
Забраўся, як у бярлогу.
Завея ў двары галосіць,
Трывожыцца жонка часцей:
«Ляжыць —
І вады не папросіць.
Ці не памёр ён, Мацей?»
А чалавеку без ежы
І праўда моташна стала,
І ён зароў па-мядзведжы:
«Жонка, давай сала!..»

---

Трэба і мацеям
Жыць па-чалавечы —
Дулю зэканоміш,
Лежачы на печы.

## МЯДОВЫ ЦІТ

«Мёд бы піць тваімі вуснамі»,—
Думаў я, дзівак гаротны.
І глядзеў, як Ціт закусвае
Ды гудзе з набітым ротам:
«Браце мой!
Тваю бяду —
Я рукамі развяду...»
Дзён праз колькі сустракаецца.
«Ну,— крычыць,— нясі паўлітра!
Браце мой, не будзеш каяцца:
Я адной рукой няхітра
Ўжо, лічы, развёў бяду...»
Мёд цячэ?
Ці лье ваду?
Праз паўгода зноў прыходзіць,
За сталом сядзіць у хаце
І мядовым словам годзіць:
«Пацярпі!
Рукамі, браце,
Развяду тваю бяду...»
П'е гарэлку —
Лье ваду.
Год прайшоў ці болей — сунецца.
«Кінь! — прашу.— Усё ў парадку».
Ну а Ціт пляце пра сувязі,
Ну а Ціт сваё спачатку:
«Браце мой!
Тваю бяду —
Я рукамі развяду...»

Сябры! Скажу адкрыта:
Ганіце з хаты Ціта.
Жыццё, бывае, перыць,
Трымае ў кулаку,
Ды лепей праўды перац,
Чым мёд на языку.

## ВОЎЧАЯ РЭКЛАМА

Распіліся ў лесе звяры:
П'юць у бярлозе,
П'юць у нары,
П'юць у дарозе —
Пад зялёным кустом,
Лапай прыкрыўшыся ці хвастом.
З раніцы да змяркання —
Тупат, лаянка, свіст.
І атрымаў заданне
Шэры Воўк-рэкламіст.
Выбраў бяросты кусок,
Напісаў ён:
«Р э к л а м а.
Піце бярозавы сок,
А гарэлкі — ні грама!
Піце бярозавы сок,
Піце, смакуючы кожны глыток,
Піце самі часцей
І частуйце гасцей!..»
Напісаў і павесіў
Воўк рэкламу ў лесе —
На высокай бярозе,
Пры шырокай дарозе.
Ганарар атрымаў,
Збегаў адразу ж у краму
І гарэлкі набраў,
Каб замачыць рэкламу.
У бярэзніку, дзе халадок,
Воўк рассеўся як дома,
Піў за кожны радок

Не па граму, вядома.
З гладыша запіваў,
Праўда, бярозавым сокам —
І рэкламу, як песню, спяваў
Голасам п'яным, высокім.
Потым некага тоўк,
Потым ламаў бярэзнік,
Сам не помніць ён, Воўк,
Як патрапіў у выцвярэзнік.

———

Я знаю рэкламных людзей,
Падобных на воўка ў бярэзніку:
За сок агітуюць удзень,
Начуюць — у выцвярэзніку.

## ВУЖ-ДАЯР

За вёскай, на лясной мяжы,
Сустрэліся вужы.
«Нідзе я не служу,—
Хваліўся Вуж Вужу.—
Без клопатаў
Жыву цяпер,
Нібы пенсіянер:
Даю ў чужым хляве карову.
Глядзі, як патлусцеў!
Кідай і ты сваю дуброву,
Перабірайся ў хлеў».
«Я лепей хлеб зап'ю вадой,
Чым буду красці сырадой,—
Адмовіў Вуж Вужу.—
Табе ж я так скажу:
Глядзі, даяр,
Каб гаспадар
З хлява не вынес без пары́ —
На сахары!..»
Да згоды не прыйшлі вужы
І распаўзліся на мяжы:
Адзін — у родную дуброву,
Другі — у хлеў, даіць карову.

---

Гаспадары!
Дзяржаўныя хлявы
Агледзьце пільна вы:
Ці не вядуцца дзе вужы,
Што смокчуць сырадой чужы?

## ЛАСІ

На галаве — карона з рог.
Ласі сышліся ўтрох
У пушчы,
Пры азерцы ціхім.
На іх,
Паклоннікаў сваіх,
Вачыма косіцца ласіха.
Затрапятала ўся
І зразумець дала,
Прыгожая,
Што прыхінецца да лася,
Які астатніх пераможа,
Аддасць яму
І капыты і сэрца
Вось тут, ля гэтага азерца.
Ласі сышліся — лоб у лоб.
Адзін, другі захроп,
Трашчаць стальныя рогі,
Сцякае пена з губ пад ногі —
Ласі хістаюцца ад змогі.
Пра сэрца думаюць, нябось,
Не бачаць, рыючы барозны:
Слабейшы,
Разумнейшы лось
Павёў сяброўку ў сосны.

---

Не пасмяяўся б я, сур'ёзны,
Каб сам не бачыў пры дзяўчатах
Такіх ласёў рагатых.

## СУЧКА
## З ЗАВУШНІЦАМІ

Хвастом віляла Сучка,
Усюды, дзе чарга,
Усюды, дзе таўкучка,
Шукала жаніха.
Ахрыпла небарака,
Схуднела, як у пост,
Ды ні адзін сабака
Не глянуў ёй пад хвост.
І Сучка да сталіцы
Дапяла пехатой,
Купіла завушніцы —
З іскрынкай залатой.
У рэстаран прыбегла,
І перад ёю ніц
Упаў Казёл нягеглы —
Аслеп ад завушніц.
Клянецца:
— Чараўніца!
Мне без цябе канец,
У гэтых завушніцах
Збірайся пад вянец!..
За паўгадзіны спеліся,
Прыбраліся чысцей —
І разам на вяселле
Пабеглі зваць гасцей.
Казла знайшла і рада,
Ды свой у Сучкі густ:
Сабак сустрэла раптам —
І шусь услед,
За куст.

Кругом усе рагочуць,
Казёл — як асталоп:
Здзівіўся так, што вочы
Палезлі аж на лоб.
Забыў пра завушніцы,
Пра шлюбную пасцель —
І ўцёк ад чараўніцы
За трыдзевяць зямель.

---

А Сучка зноў за стол
Пабегла ў рэстаран —
Не вернецца Казёл,
Дык знойдзецца Баран.

## ЗЯЗЮЛЯ

Аперылася, вырасла,
Прыбралася як след
І паляцела ў вырай,
А вырай — цэлы свет.
«Ку-ку!
Каму сын-ка?
Каму дач-ку?
Ку-ку!..»
Кукуе, каб пачулі.
Знайшоўся нейкі ўдод —
І да бацькоў з дачушкай
Вярнулася праз год.
Цікавяцца суседзі:
«Відаць, начальства зяць?
Заняты, бо не едзе...»
А што бацькам сказаць?
Прывыкла там, за светам,
Да лёгкага жыцця —
І ўжо бабулі з дзедам
Падкінула дзіця.
«Ку-ку!
Каму сын-ка?
Каму дач-ку?
Ку-ку!..»
Кукуе, каб пачулі
Аматары прыгод,
І кожны год начуе
Ў зязюлі новы ўдод.
Не днём, а ноччу цёмнай
Вяртаецца часцей,

Радні, дзядзькам і цёткам,
Падкінула дзяцей.
Шкада, радні няхватка,
Прынесла пад крылом
І аддала дзіцятка
Яна ў сірочы дом.
«Ку-ку!
Каму сын-ка?
Каму дач-ку?
Ку-ку!..»
Завея ў полі вые,
Калядная куцця,
Ды паляцела ў вырай
Па новае дзіця.

# СТАРЫ ПЕВЕНЬ

*Жарт*

Дзед яшчэ здаровы,
Смеху повен рот,
Сам паколе дровы
І ўзарэ гарод.

Праўда, ёсць і слабасць,
Прыхамаць скарэй:
Дзед заместа бабкі
Шчупае курэй.

Бабка кпіць, канечне.
Дзед —
нібы глушэц,
Есць сабе яечню
З дзесяці яец.

Гневаецца бабка:
— Сорамна ў двары —
З глузду з'ехаў, мабыць,
Курашчуп стары!

Дзед даесць яечню
Ды смяецца, гад:
— Малады, канечне,
Шчупаў я дзяўчат!

Бабка кіне лыжку,
За трапкач скарэй:

— Ах ты, певень лысы,
Цягне да курэй!

Дзед рагоча басам,
Б'е другім канцом:
— А сама ты, бабка,
Часам не з яйцом?

# НАКАШТАВАЎ

*З народнага*

Да суседа з торбай
Ён прыйшоў, Мікіта,
Каб пазычыць трошкі
На зацірку жыта.
— Быў я днямі
Ў горадзе, Адам.
От жа смачныя
Булкі там!
— Ты каштаваў?
— Ды не!
Не па зубах куліч.
Бачыў:
Еў адзін паніч...
Ад суседа з торбай
Ён прыйшоў, Мікіта,
І ў жаронцах меле
На зацірку жыта.

## РАЗЫШОЎСЯ, ЯК ЗАЕЧА САЛА

*З народнага*

Ехаў пан у госці,
Балбатаць прывык —
Нават у дарозе
Засвярбеў язык.

За спіной вазніцы
Пан і кажа тут:
— Во забіў я зайца —
Сала цэлы пуд!

А Кузьма дасціпны,
Дык знайшоўся зноў:
— Чуў я, чорт на мосце
Ловіць брахуноў.

Пан хавае вочы,
Пан падціснуў хвост
І пытае ціха:
— А далёка мост?

— Лес мінём, ды поле,
Ды праз луг наўпрост —
Там і будзе, пане,
Гэты чортаў мост.

Як у лес уехалі,
Збавіў пан вагу:
— Фунтаў дзесяц сала
Ўсё ж было, не лгу.

І дале́й, у полі,
Пан пачаў збаўляць:
— Ну не дзесяць, можа,
Добрых фунтаў пяць!

Лугам едуць, бачыць,
І сказаў тады:
— Ён без сала, заяц,
Хоць і не худы.

Ззаду луг застаўся,
А ракі — няма.
Пан ажыў, пытае:
— Дзе ж той мост, Кузьма?

А Кузьма ўсміхнуўся,
Падкузьміў удала:
— Разышоўся, пане,
Як заяча сала!..

За спіной вазніцы
Пан зусім панік,
Быццам у дарозе
Праглынуў язык.

# КАЗКА ПРА СКУПУЮ СЯСТРУ

*З народнага*

— Ку-ку!
Ку-ку!..—
На рунь,
На спелы колас.
У песенным кутку
Чуваць самотны голас.
Спявае ў садзе шпак,
Сінічка з песняй скача.
Чаму зязюля так
Кувае — быццам плача?..
Даўным-даўно на свеце
Хлапчына жыў, Якуб,
З прыжмурам вочы светлыя,
Прыгожа віўся чуб.
Не меў сям'і, аднак.
Не меў сям'і аднак.
І да сястры адзінай
Прытупаў ён,
Бядняк.
Ад голаду аслаб,
Зайшоў нясмела ў хату
І просіць:
— Дай хаця б
Кавалак хлеба брату...
Сястра ажно клянецца:
— І рада б памагчы,
Ды ад каморы недзе
Згубіліся ключы.
А там і свежы жытнік,

І мёд, і сала, браце,—
І пачала нібыта
Ключы шукаць у хаце.
А брат вады напіўся,
Сышоў у цёмны бор —
І ціха заблудзіўся,
Ад голаду памёр.
Не возьмеш слоў назад,
Сястра сама не рада —
І выбегла за сад,
І кліча ў хату брата:
— Якуб,
Вярніся!
Ключы знайшліся...
Глядзіць, гусцее пер'е
На целе пад кашуляй —
Яна праз скупасць шэрай
Зрабілася зязюляй.
Смяецца ў небе сонца,
А ёй і свет не люб —
Лятаючы,
Бясконца
Заве:
— Я-ку-б!
Я-ку-б!..
Няма калі спяваць
У песенным кутку,
І толькі ўсё чуваць:
— Ку-ку!
Ку-ку!..

## ЯК ЧОРТА З ХАТЫ ВЫГНАЛІ

*З народнага*

Сварыўся часта з жонкай
Адзін мужык круты.
Прачнецца і спрасонку
Крычыць:
— Гультайка ты!
Я цэлы дзень ару,
А ты б'еш лынды дзесьці,
Абед і то ў пару
Лянуешся прынесці...
Дурная завядзёнка —
Сварыцца без нагоды,
І не стрывала жонка,
Спакойная заўсёды:
— За што пілуеш вечна?
Ці ж я гуляю ўпотай?
Сама не бачу свету
За хатняю работай.
— Гаршкі выцягваць з печы —
Не плугам драць зямлю,
Я дома ўсё, дарэчы,
Гуляючы зраблю.
— Гуляючы?
— Вядома!
Не будзеш без абеду.
— Тады ўпраўляйся дома,
А я араць паеду!..
Мужык паснедаў дбала,
Прыкінуў: «Не спацею!
Зраблю, што наказала,

І выспацца паспею.
Без плуга тут, як людзі,
Аддыхаюся хоць».
І, закурыўшы люльку,
Пачаў муку малоць.
А бойку прывязаў
Да пояса,
Ківаецца,
Смятана —
Боўць ды боўць! —
На масла так збіваецца.
Спяваюць жорны звонка,
Цячэ мука гусцей.
Пахваліць, думаў, жонка.
Ды чорт панёс дзяцей,
Крычаць яшчэ здаля,
Вясёлыя,
Бы рады:
— Цяля!
Цяля залезла ў грады!..
Забыў пра ўсё мужык
І кінуўся на крык,
А бойка па каленях
Баднула нечакана —
І расцягнуўся ў сенях
На поўны рост, як п'яны,
У лужыне смятаны.
Падняўся мокры, бледны,
Глядзіць, ці пуга ёсць,
І на цяляці бедным
Мужык зганяе злосць:
— Не хочаш ты, нягоднае,
Падбрыкваць на траве,
Дык мыкай жа
Галоднае

Ў хляве!..
Сярдзіты, хмара хмарай,
Вярнуўся — спраў хапае,
А ў хаце гаспадарыць
Ужо свіння рабая.
І на калені падаў,
І верхам ездзіў ён,
Пакуль такую пані
З пакоя выпхнуў вон.
Патыліцу пачухаў,
Не знае, што рабіць:
Цяпер няма квахтухі
На рэшаце, глядзіць.
«Ну вось, і яйкі стынуць!» —
Мужык ажно спацеў
І сам на яйкі тыя
Замест квахтухі сеў...
Казак тудою ехаў,
Зайшоў вады напіцца.
«Вось гэта дык пацеха!» —
Не можа надзівіцца.
Загаварыў нарэшце:
— Скажы мне, барада,
Хто пасадзіў на рэшата
Цябе?
— Бяда!
А ўсё праз мой язык...—
І казаку ў парозе
Ён расказаў, мужык,
Што ў хаце адбылося.
— Кабету выжыў з дому,
І вось расплата, брат,
Прыходзіцца самому
Выседжваць куранят...
Казак вясёлы трохі

Парагатаў з нябогі,
Узяў бізун казак,
Ды вучыць ён:
— Вось так!
Каб быў ласкавым мужам!
А гэта — за язык!..
І закруціўся вужам
На рэшаце мужык.
Сядзець ужо не можа,
Бо дужа непрыгожа:
Пад ім цяпер, канечне,
Не яйкі, а яечня!
Ускочыў —
І за дзверы,
І на гарышча,
Сам не свой,
У нейкі кораб з пер'ем
Схаваўся з галавой...
Казак вады напіўся,
Паехаў і за хатай
Усё яшчэ дзівіўся
З квахтухі барадатай.
А жончыны бацькі
Якраз прыйшлі ў адведкі,
Глядзяць, няма дачкі
Ні дома, ні ў суседкі.
Сышла з двара, лайдачыць,
А ў хаце не прыбрана:
Мука прапала, бачаць,
Разліта ўся смятана.
— Свіння, ці што, хадзіла? —
Прыглядваецца дзед.—
Кругом, дурное рыла,
Пакінула свой след.
— І насцеж дзверы ў хаце!

Паслухай, дзед, дык мо
Не ёй, дачцэ, а зяцю
Гасцінец аддамо?
Ён працавіты, зяць,
Арэ даўно, відаць...
А той мужык не дыша,
Ды ўжо не так і горка,
Бо чуе на гарышчы,
Аб чым ідзе гаворка.
Праз кораб перагнуўся,
Каб глянуць на гасцінец,—
І сам уніз кульнуўся,
І кораб той з дабром —
Нібыта ў сенях ціхіх
Ударыў раптам гром.
Бацькі вачам не верадь:
Ляжыць ён,
Чорт жывы,
У пуху ўвесь,
У пер'і —
Ад пят да галавы.
Чакае, дзед адступіць.
А дзед зацяўся цвёрда
І таўкачом ад ступы
Давай дубасіць чорта.
— Нячысцік!
Вунь куды
Панадзіўся цягацца!
Яшчэ такой брыды
Не бачыў я, прызнацца.
— Глядзі, на ім штаны
Як быццам у яечні! —
З-за дзедавай спіны
І баба кажа: —
Смешны!

Ды ён нябось паскудзіў,
Рабіў у хаце зло.
Гані,
Каб тут, дзе людзі,
І духу не было!..
Спалохаўся мужык:
«Зняверчыць дзед, няйначай!» —
І драла даў,
І знік
Са світаю сабачай...
А ў жонкі ўсё прасцей,
А жонка едзе з поля,
Убачыла гасцей
І скардзіцца на долю:
— За што ён, мама, мучыць?
Як быццам чорт падвучыць,
Крычыць,
Гатоў ударыць,
Ніколі,
Каб з дабром.
Застаўся гаспадарыць,
Дык вунь які пагром!
— Не плач! —
Шкадуе маці
І ласкай суцяшае: —
Цяпер у роднай хаце
Не будзеш ты чужая.
— Чаму?
— Бо чорта з хаты
Мы выгналі якраз,
А гэта ён, пракляты,
Сварыў дарэмна вас...
І праўда:
З той пары
Сям'ю абходзіць ліха,

Жывуць гаспадары,
Мужык і жонка, ціха.

Гісторыя старая,
Але гучыць сучасна
І смехам нас карае,
За што — і дурню ясна.

# ЗМЕСТ

## 1

# 2



# 3

**Маляўка М.**

М 21 Зімні дождж: Вершы, балады, байкі.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 174 с.: іл.

ISBN 5-340-00651-4.

Малявка Н. Зимний дождь: Стихи, баллады, басни.

На выходзе дваццатае стагоддзе. Што дало яно нам, людзям і прыродзе, нашай зямлі? Што, калі і як страцілі мы ў мінулым і трацім сёння, на нялёгкім шляху ў будучае. Пра гэта — новая паэтычная кніга Міколы Маляўкі.

$М\frac{4702120202-010}{М\ 302(03)-91}60-91$ ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

*Малявка Николай Александрович*

*ЗИМНИЙ ДОЖДЬ*

*Стихи, баллады, басни*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Маляўка Мікалай Аляксандравіч*

*ЗІМНІ ДОЖДЖ*

*Вершы, балады, байкі*

Рэдактар *Хв. Д. Жычка.* Мастак *Ю. У. Якавенка.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Я. Ф. Харко.*

ІБ № 3444

Здадзена ў набор 12.04.90. Падп. да друку 02.10.90. Фармат $70\times90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,44. Ум. фарб.-адб. 6,58. Ул.-выд. арк. 6,24. Тыраж 2400 экз. Зак. 353. Цана 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.